ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 21 (2547)
ПЯТНІЦА
21
мая 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Яны яшчэ вучацца — маладыя, дваццацігадовыя, дапытлівыя і няўрымслівыя. Тут, у сценах кансерваторыі, правяраюцца «на слых» іх першыя самастойныя опусы. Перш чым пачынаць пісаць—паглыбляйся ў «азы» гармоніі, вучыся мысліць музычнымі вобразамі, чытай і перачытвай музычную літаратуру, у тым ліку і тыя яе старонкі, што створаны былымі выхаванцамі гэтай жа Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. Луначарскага, кампазітарамі, чые імёны добра ведае слухач... А выпрабаваныя ў «музычных баях» мудрыя і дасведчаныя настаўнікі дадуць табе параду, падтрымаюць смелы творчы пошук і рашуча папярэдзяць цябе, калі ты захопішся модай і пачнеш фальшывіць. Яны вядуць будучага кампазітара ў сапраўдны свет музыкі, дзе крылы мелодыям і вобразам дае жыццё, імклівае і разнастайнае, драматычнае і радаснае; яны раскрываюць перад табой крыніцы натхнення і хараство музыкі, створанай народам; яны расшыфруюць сакрэты майстэрства выдатных творцаў. Слухай іх уважліва, запамінай, захавай у сэрцы гэтыя ўрокі, бо пройдуць гады, і ты, дасягнуўшы высокай мэты і здабыўшы заслужаны поспех, мабыць, звернешся ў думках з удзячным словам да іх, сваіх настаўнікаў, што не шкадуюць ні часу, ні энергіі, перадаючы табе вопыт, абуджаючы ў табе дапытлівы розум і сапраўднае творчае гарэнне. Тут цябе вучаць быць байцом у мастацтве вялікай жыццёвай праўды, праўды нашага велічнага часу.

На здымку—народныя артысты БССР, кампазітары У. Алоўнікаў (стаіць) і А. Багатыроў сярод будучых кампазітараў —студэнтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Фото Ул. КРУКА.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

віч, І. М. Лучанок, У. У. Алоўнікаў, А. Я. Ракава, Ю. У. Семяняка, Г. І. Цітовіч, Р. Р. Шырма, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР М. Танк, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. А. Грамыка, старшыня прэзідыума Беларускага тэатральнага аб'яднання, народная артыстка СССР Л. П. Александроўская, прадстаўнікі Саюзаў кампазітараў: РСФСР — І. М. Беларусец, Украіны — В. П. Шапаваленка, Узбекістана — М. Б. Лявіеў, Літвы — В. А. Бауміласс, Латвіі — Д. Н. Куцькоў, Эстоніі — І. М. Блейве, Татарыі — Э. З. Бакіраў.

З вялікім уздымам выбіраецца ганаровы прэзідыум у складзе Палітбюро ЦК КПСС.

Выбіраюцца сакратарыят з'езда, мандатная камісія, камісія па выпрацоўцы рашэнняў з'езда. Зацвярджаецца парадак дня з'езда: справаздача праўлення і справаздача рэвізійнай камісіі Саюза кампазітараў БССР, выбары праўлення і выбары рэвізійнай камісіі Саюза кампазітараў БССР.

Слова атрымлівае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. Ён зачытвае сустрэтае апладысментамі прывітанне ЦК КПБ VI з'езду кампазітараў БССР.

Са справаздачным дакладам на з'ездзе выступіў старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР Р. Р. Шырма. Даклад рэвізійнай камісіі зрабіў яе старшыня І. І. Жыновіч.

На гэтым ранішняе пасяджэнне з'езда кампазітараў БССР заканчваецца.

Вечарам у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся першы справаздачны канцэрт.

БЕЛТА.



У ПРЭЗІДЫУМЕ З'ЕЗДА

Фота Ул. КРУКА.

# VI З'ЕЗДУ КАМПАЗІТАРАЎ БЕЛАРУСІ

**Дарагія таварышы!**

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае VI з'езд кампазітараў БССР і жадае ўсім работнікам музычнага мастацтва рэспублікі новых творчых поспехаў.**

**Музыка, з'яўляючыся адным з важных сродкаў ідэйна-мастацкага выхавання працоўных, стала ў нашай краіне сапраўды ўсенародным здабыткам і адыгрывае велізарную ролю ў жыцці савецкага грамадства. Партыя высока цэніць працу кампазітараў і музыказнаўцаў, творчасць якіх накіравана на тое, каб паўней задавальняць эстэтычныя запатрабаванні людзей, узнімаць іх на вялікія подзвігі і здзяйсненні.**

**Беларускае савецкае музычнае мастацтва непарыўна звязана з развіццём усёй шматнацыянальнай савецкай музычнай культуры. Кіруючыся прынцыпамі партыйнасці і народнасці, працягваючы рэалістычныя традыцыі класікаў, кампазітары рэспублікі ў апошнія гады стварылі шэраг значных твораў. Лепшыя ўзоры беларускай музычнай творчасці, якія атрымалі шырокае прызнанне, па праве ўвайшлі ў скарбніцу духоўнай культуры нашай сацыялістычнай Радзімы.**

**Грандыёзная праграма гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, вызначаная XXIV з'ездам КПСС, натхняе савецкіх людзей на самаадданую працу, смелыя дзярзанні і штодзённыя настойлівыя творчыя пошукі. Новыя вялікія задачы камуністычнага выхавання народа патрабуюць ад дзеячоў музычнага мастацтва далейшай плённай і мэтанакіраванай работы. Народу патрэбны яркія, захапляючыя оперы і балеты, музычныя камедыі і сімфоніі, хоры і масавыя песні, прысвечаныя важнейшым тэмам сучаснасці, гераічнай гісторыі, ажыццяўленню неўміручых ленінскіх ідэй. Творчасць беларускіх кампазітараў павінна ў поўнай меры адпавядаць узрослым культурным запатрабаванням народа, узвышаць і выхоўваць людзей, захапляць глыбінёй ідэйнага зместу і высокай дасканаласцю мастацкай формы.**

**Задача Саюза кампазітараў БССР — накіроўваць намаганні кампазітараў і музыказнаўцаў на далейшае павышэнне іх прафесійнага майстэрства і ідэйна-мастацкіх якасцей ствараемых твораў, садзейнічаць выхаванню ў кожнага мастака палітычнай сталасці, пачуцця высокай адказнасці за сваю творчасць, пастаянна ўмацоўваць сувязі з шырокімі масамі працоўных.**

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі выказвае ўпэўненасць у тым, што кампазітары рэспублікі, добра ўсведамляючы веліч праблем, якія стаяць перад творчай інтэлігенцыяй, аддадуць усе свае сілы і талент стварэнню новых яркіх высокамастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць цудоўную сацыялістычную рэчаіснасць, багаты духоўны свет і слаўныя подзвігі савецкага чалавека—будаўніка камунізма!**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**

# УСХВАЛЯВАНЫ ГОЛАС ЧАСУ

ШОСТЫ РАЗ сабраліся на свой з'езд кампазітары Беларусі. І не толькі кампазітары. Вялікая творчая справаздача, з якой яны выступаюць перад нашай грамадскасцю, прыцягвае ўвагу ўсіх, хто так або інакш звязаны з музыкай, — выканаўцаў, крытыкаў, педагогаў, студэнтаў, шматлікіх аматараў з самадзейнасці, слухачоў. Зноў і зноў гучаць даўно знаёмыя мелодыі і навінкі музычнай літаратуры на канцэртных эстрадах, на тэатральных падмостках, па радыё і па тэлебачанні.

Складанае і шматграннае жыццё народа адлюстроўваецца ўсімі жанрамі музыкі. Ад лірычнай песні, прызначанай аўтарамі на пасаду спадарожніка турыстаў, да праграмнай сімфоніі або канцэрта для цымбалаў, або аргана з аркестрам, ад кантаты, дзе нароўні з музыкай гучаць узоры вуснай народнай творчасці, да камернага раманса, ад армейскага марша да маштабнага опернага твора—такі шырокі дыяпазон інтарэсаў сучасных кампазітараў Беларусі. Мабыць, з'езд не толькі адзначыць адчувальны плён жанравага ўзбагачэння нашай музыкі, а і дасць тэарэтычнае асэнсаванне гэтай з'явы, прааналізуе здабыткі такога няпростага працэсу і яго страты.

Жанравая разнастайнасць цяперашніх творчых шуканняў і вопытных кампазітараў і маладых аўтараў грунтуецца на імкненні адлюстраваць імклівую рэчаіснасць нашых дзён, раскрыць духоўны свет чалавечай асобы, вобраз грамадзяніна Краіны Саветаў. Трэба спадзявацца, што ў тэарэтычных абмеркаваннях на з'ездзе першым і вышэйшым крытэрыем ацэнкі асобных твораў і пэўных тэндэнцый ў развіцці музыкі будзе жыццёвая праўда, народнасць і партыйнасць пазіцый мастака.

Беларуская музыка ўсё больш упэўнена заваёўвае масавага слухача не толькі ў нашай рэспубліцы, а і за яе межамі. Тут мы можам назваць мноства радасных з'яў і фактаў — уключэнне ў праграмы вядучых канцэртных калектываў краіны песень У. Алоўнікава, Г. Вагнера, Я. Глебава, І. Лучанка, пастаноўкі оперы «Калючая ружа» Ю. Семянякі і балета «Выбранніца» Я. Глебава на сцэнах Кіргізіі і Расійскай Федэрацыі, паспяховае выкананне сімфанічных і камерна-інструментальных твораў беларускіх кампазітараў нашымі артыстамі ў Прыбалтыцы, на Украіне, у Сібіры і Паволжы.

У перыяд паміж кампазітарскімі з'ездамі Дзяржаўнымі прэміямі Беларускай ССР былі адзначаны творчыя здабыткі такіх майстроў, як Я. Цікоцкі — аўтар оперы «Алеся», А. Багатыроў — стваральнік кантаты «Беларускія песні», Я. Глебаў — творца музыкі балета «Выбранніца», Р. Шырма і І. Жыновіч — за выдатную канцэртную дзейнасць. Творчы плён маладога кампазітара І. Лучанка адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі, першым месцам на Усесаюзным конкурсе на лепшую савецкую песню да 50-годдзя Вялікага Кастрычніка і срэбным медалем конкурсу на лепшую песню на тэмы абароны Радзімы. Значнымі падзеямі ў культурным жыцці рэспублікі было выкананне новых твораў М. Аладава, Л. Абеліёвіча, А. Янчанкі, С. Картэса, Д. Смольскага. Ва ўсесаюзных выдавецтвах «Советский композитор» і «Музыка» выйшлі ў свет партытуры і клавіры сімфанічных і камерных твораў беларускіх аўтараў, кнігі нашых музыказнаўцаў. А ў ліпені перад патрабавальнай маскоўскай публікай будзе выступаць Дзяржаўны акадэмічны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балета БССР, у рэпертуары якога новыя буйныя палотны беларускай музыкі — «Зорка Венера» Ю. Семянякі, «Альпійская балада» і «Выбранніца» Я. Глебава і «Пасля балю» Г. Вагнера.

Праўда, музычная грамадскасць з трывогай адзначае тое, што некаторыя вартыя працяглага канцэртнага жыцця творы вельмі ж хутка знікаюць з афіш і з рэпертуару. Больш таго — прэм'еры сімфанічных і камерна-інструментальных твораў часам адбываюцца ў Мінску ў напалову пустой філарманічнай зале, на іх не так часта сустрэнеш кампазітараў (дзіўная абыякавасць да дзейнасці калегі па мастацтве!), кансерваторскую моладзь, пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў. Пра гэта гаворыць сёння ў сваім выступленні на старонках «Літаратуры і мастацтва» Я. Глебаў. Наспявае надзённае пытанне пра ўзаемасувязь паміж творчай і арганізацыйнай дзейнасцю Саюза кампазітараў БССР, пра ўменне прапагандаваць сапраўдныя здабыткі беларускай музыкі. Мабыць, правільна будзе выклікаць на абмен думкамі і прадстаўнікоў Упраўлення па справах мастацтва Міністэрства культуры БССР, якое кіруе дзейнасцю Беларускай дзяржаўнай філармоніі і Гомельскай абласной філармоніі. Абазначыць на афішы імя кампазітара і назву твора, не паклапаціўшыся пра папулярызацыю іх іншымі сродкамі (рэклама, радыё, тэлебачанне), і чакаць аншлагу ў такім выпадку дарэмна. Відаць, і таварыства «Веды» пакуль што робіць далёка не ўсё і не на тым узроўні, каб лекцыйнае слова абуджала ў слухачоў цікавасць да творчасці нашых кампазітараў.

Назваўшы адну з праблем, якая можа быць прадметам размовы на з'ездзе, закранём і наступную. Музычная крытыка. Зразумела, музыказнаўцы і паасобку, і ў калектыўных працах, апублікаваных у час паміж папярэднім і цяперашнім з'ездамі кампазітараў, прарабілі даволі значную работу. Створаны манаграфічныя нарысы пра актыўных кампазітараў, ёсць даследаванні творчай спадчыны, напісаны нарысы па гісторыі музыкі, педагогі і студэнты атрымалі падручнікі, і на вокладках такіх выданняў — імёны беларускіх крытыкаў-музыказнаўцаў.

Але стан і ўзровень музычнай крытыкі ў Беларусі не дае падстаў для заспакаення. Варта прыгадаць словы са Справаздачнага даклада ЦК КПСС XXIV з'езду партыі: «Мы за ўважлівыя адносіны да творчых пошукаў, за поўнае раскрыццё індывідуальнасці дараванняў і талентаў, за разнастайнасць і багацце форм і стыляў, якія выпрацоўваюцца на грунце метаду сацыялістычнага рэалізму». І крытыка заклікана сваімі ацэнкамі і даследаваннямі ўплываць на такія адносіны, на такое раскрыццё, на працэс узбагачэння форм і стылю сучаснай музыкі. Ад яе грамадскасць чакае прынцыповасці ў падыходзе да кожнага творчага эксперыменту, умення своечасова і актыўна падтрымаць талент і з веданнем справы выкрываць прэтэнцыёзныя опусы, пазбаўленыя глыбокага жыццёвага зместу і разлічаныя на эпатаж слухачоў, лёгкадумныя песенькі з канвеера «нарыхтоўшчыкаў» эстраднага рэпертуару. Здараецца, што нашы крытыкі на працягу месяцаў маўчаць, не даючы ацэнкі твору, які набывае канцэртнае або сцэнічнае жыццё. А іх аператыўныя водгукі часам выглядаюць празмерна ўскладнёнымі чыста «прафесійнымі» (як кажуць, «цэхавымі») заўвагамі і высновамі, якія пакідаюць абыякавым чытача рэцэнзій і артыкулаў ў перыёдыцы.

Хоць размова пра маладыя кадры музычных крытыкаў не «ўмяшчаецца» цалкам у праграму з'езда кампазітараў, з яго трыбуны павінен прагучаць устрывожаны голас — чаму наша кансерваторыя і наш універсітэт не рыхтуюць журналістаў, здольных арыгінальна і цікава, змястоўна і жыва пісаць пра музычнае жыццё. Рэдакцыі газет і часопісаў рэспублікі вымушаны звяртацца да вельмі абмежаванага кола рэцэнзентаў, да таго ж занятых службова педагагічнай або навуковай дзейнасцю.

Такім чынам, пытанне прапаганды беларускай музыкі на канцэртнай эстрадзе, у друку і ва ўсіх формах заахвочвання слухачоў набывае далёка не другараднае значэнне.

А прапагандаваць у нас ёсць што. Справы і планы савецкіх людзей, натхнёных вялікімі ленінскімі ідэямі, наша гераічная гісторыя, рэальнае жыццё народа даюць мастакам тэмы і вобразы, і музыка з кожным годам пашырае свае творчыя далягляды, раскрываючы непаўторнымі сродкамі духоўны свет сучасніка. На давер партыі і народа кампазітары адказваюць хвалюючымі творамі. Іх дзейнасць мае сваю спецыфіку — аўтар адрасуе твор, у першую чаргу, эмоцыям чалавека, праз пачуцці абуджае роздум пра час і пра сябе (і гэта характэрнае і для твораў з ясна і лагічна пабудаванай праграмай, там, дзе слова замацоўвае і расшыфроўвае музычную задуму і мову).

Здабыткі ёсць, яны радуюць! Сказанае не азначае, быццам нашы кампазітары не маюць пра што клапаціцца і куды скіраваць творчую разведку. Напрыклад, у апошні час мала з'яўляецца твораў для аркестраў народных інструментаў, для харавой капэлы, для камернага аркестра. Было б добра, калі б узбагаціўся рэпертуар папулярнымі п'есамі і ў жанры сімфанічнай музыкі (уверцюры, сімфанічныя танцы, невялікія праграмныя творы, фантазіі і варыяцыі на народныя тэмы і г. д.). Святочныя цырымоніі і фестывалі маглі б мець музычнае афармленне, зробленае спецыяльна да гэтай даты і да гэтай падзеі адным або групай кампазітараў. А што можна назваць цікавае і арыгінальнае ў такой важнай галіне бытавой музыкі, як сучасны абрад вяселля, маладзёжнага карнавала, народнага гуляння? Дарэчы, тут нашы кампазітары надзвычай рэдка скарыстоўваюць багатыя магчымасці духавой музыкі...

Камуністычная партыя і ўрад краіны праяўляюць штодзённы клопат аб літаратуры і мастацтве, у тым ліку — музычным. Адказаць на гэтую ўвагу і клопат высокаідэйнымі і праўдзівымі творамі — абавязак кожнага музычнага дзеяча!

# ГАВОРАЦЬ УДЗЕЛЬНІКІ VI З'ЕЗДА КАМПАЗІТАРАЎ БССР


## Яўген ГЛЕБАЎ,

заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР




# ПЕРАД ВЯЛІКІМ ПАЛЁТАМ...

— ПАЧНУ з даволі сумнаватага жарту. Мой старэйшы сябра Марк Эмануілавіч Шнейдэрман аднойчы спытаў мяне: «Чаму мы, кампазітары, пасля прэм'еры нашага твора на канцэртнай эстрадзе так нізка схіляем галаву перад аркестрам?» Адказваю — маўляў, гэта звычайная ветлівасць і падзяка за выкананне. «Не, не толькі. Мы ж яшчэ і развітваемся са сваім творам. Развітваемся, бывае, назаўсёды...»

І сапраўды, як рэдка нават самыя цікавыя творы нашых кампазітараў, асабліва ў жанры сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі, захоўваюцца ў рэпертуары філарманічных калектываў! Мяне лічаць «шчаслівчыкам», бо некаторыя з маіх п'ес паўтараліся ў канцэртах па некалькі разоў. А грамадскасць, шырокія колы слухачоў пазбаўлены магчымасці слухаць (а ёсць творы, якія, як і кнігі, трэба не раз «разгарнуць», каб адчуць іх хараство і глыбіню) і ацэньваць па вялікім рахунку напісанае ветэранамі і творчай моладдзю.

Скажуць, што я павёў размову на арганізацыйную тэму. Не, прапаганда музыкі — справа заўсёды надзённая. Ніхто не піша ноты, каб яны заставаліся на паперы: іх хочацца выправіць у вялікі палёт. Правільна, далёка не ўсё, што пішацца, бывае вартым такога палёту, але ж дайце магчымасць твору аперціся крыламі на тое паветра, што ствараецца ў якасці атмасферы ў канцэртнай зале, праверце яго ў розных аўдыторыях слухачоў! На жаль, філармонія і мы, Саюз кампазітараў БССР, яшчэ мала дбаем і клапоцімся пра канцэртнае жыццё нават лепшых старонак нашай музычнай літаратуры. Радыё і тэлебачанне тут прыходзяць на дапамогу філармоніі. Толькі ўражанні ад музыкі, праслуханай у чарзе да цырульніка або ў гасцях за шклянкай гарбаты, нельга лічыць паўнацэннымі, яны не могуць далучыць слухача да зместу і да гучання музыкі так, як гэта адбываецца ў часе непасрэднай сустрэчы публікі з «жывым» выкананнем аркестрам.

Скажу яшчэ і пра тое, як папулярызуецца музыка нашых кампазітараў. Водгукі на прэм'еры, рэцэнзіі і артыкулы друкуюцца на старонках газетнай і часопіснай перыёдыкі ў нас вельмі рэдка, ад выпадку да выпадку. Аўтарамі выступае вузкае кола музыказнаўцаў. Хай на мяне не крыўдуюць мае калегі з нашага «крытычнага цэха», але ў галіне музычнай журналістыкі мы пакуль што не маем такога баявога і дасведчанага крытычнага пяра, якое ведаем па гісторыі савецкага музыказнаўства — А. Луначарскі, І. Глебаў (Б. Асаф'еў), І. Салярцінскі... Напісанае пра сімфонію або пра цыкл рамансаў, пра балетную партытуру або пра кантату павінна быць аднолькава цікавым і для музыканта-прафесіянала, і для слухача. Далёка не заўсёды такая мэта бывае дасягнута нават і ў больш-менш удалых выступленнях па надзённых пытаннях беларускай музыкі нашых крытыкаў. Бо лепшай ацэнкай працы крытыка можна лічыць тую «маўклівую» ацэнку чытача, калі ён, прачытаўшы артыкул або брашуру, спяшаецца ў канцэртную залу, «здабывае» пласцінку ці, прынамсі, пасылае на радыё заяўку на выкананне твора, аб якім яму расказаў музыказнаўца-рэцэнзент.

На з'ездзе мы будзем пра многае гаварыць і спрачацца. Справаздача, з якой выступаюць перад грамадскасцю рэспублікі кампазітары,— творчая, разнастайная па жанрах, змястоўная па тэматыцы. Калі збіраюцца прафесіяналы, ім ёсць пра што пагаварыць на сваёй прафесійнай мове. Хочацца, каб патрэбная размова пра актуальныя праблемы развіцця і ўздыму культуры нашай творчасці не абмяжоўвалася гэтым, а мела б на ўвазе таго, каму мы адрасуем нашы творы — масавага слухача.

Сапраўды добрая музыка спрые станаўленню і росквіту выканаўчага мастацтва, жывіць крытычна-даследчую думку, узбагачае духоўнае жыццё народа. Усё тут ва ўзаемасувязі трывалай і непарыўнай!


## Юрый СЕМЯНЯКА,

заслужаны дзеяч мастацтваў БССР,




# МАЦАВАЦЬ ТВОРЧУЮ САДРУЖНАСЦЬ

— НІХТО не бачыць тых пакутлівых і радасных пошукаў, што вядзе аўтар музыкі на нотным аркушы паперы, ля інструмента. Адны з нас пішуць лёгка і амаль адразу даюць канчатковую рэдакцыю будучага твора, другія многа разоў вяртаюцца да знойдзенага раней і перапісваюць зноў і зноў. Іграюць сябрам «першыя накіды», знаёмяць з варыянтамі, і надыходзіць такая часіна, калі ты перадаеш твор выканаўцам — салісту або калектыву. Ад гэтай сустрэчы, ад таго, як наладзяцца ўзаемаадносіны паміж намі, часта залежыць далейшы лёс твайго твора. Лепшы варыянт — сапраўдная творчая садружнасць, узаемная добразычлівасць і прынцыповасць, каб я, аўтар, адчуваў, што мае намеры зразумелі і, выказваючы тыя або іншыя пажаданні і прэтэнзіі, хочуць дасягнуць адзінай для нас мэты.

Асабліва вялікае значэнне такая садружнасць мае для кампазітараў, якія працуюць у жанры музычна-драматычным, пішуць для тэатра. Тут без ажыццяўлення прынцыпу — адзін за ўсіх і ўсе за аднаго — нічога добрага не атрымаецца. Ведаю гэта па сваім асабістым вопыце...

— Калі кіраўніцтва адмахваецца ад арыгінальных твораў (а ставіць іх, безумоўна, цяжэй, чым апрабаваныя, класічныя),— ад яго раўнадушнасці церпіць агульная справа. Але мяне асабіста насцярожвае і раўнадушнасць іншага роду — калі, прымаючы новы твор, аўтара запэўніваюць, што ў яго ўсё добра, бездакорна, дасканала. Г: а таксама не на карысць ні аўтару, ні тэатру.

Хачу адзначыць з задавальненнем, што ў апошні час, на мой погляд, наш оперны тэатр надзвычай сур'ёзна ставіцца да арыгінальных спектакляў. Сведчаннем гэтаму — новы балет Г. Вагнера «Пасля балю», які з'яўляецца цікавай работай як кампазітара, так і тэатральнага калектыву.

Узрасла патрабавальнасць, узрасла і творчая дапамога аўтарам. Усё гэта я адчуў у час рэпетыцый «Зоркі Венеры». Уносіліся значныя папраўкі ў партытуру, і ў лібрэта, па прапановах пастаноўшчыкаў перапісваліся нанава і дапісваліся сцэны. Дарэчы, рэжысёра С. Штэйна, дырыжора К. Ціханава, мастака Я. Чамадурава я лічу сапраўднымі сааўтарамі твора. Са шчырай удзячнасцю ўспамінаю дапамогу хормайстраў А. Кагадзеева і Г. Луцэвіч, балетмайстра С. Дрэчына, салістаў і ўсяго калектыву тэатра. З той пары, як скончыліся рэпетыцыі, адчуванне такое, нібы нечага ў жыцці не хапае. Хацелася б зноўку апынуцца ў той неспакойнай творчай атмасферы.

Нашы магчымасці пашырыліся сёлета ў сувязі з адкрыццём Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, кіраўніцтва якога, дарэчы, таксама з вялікай цікавасцю ставіцца да твораў беларускіх аўтараў. Праўда, калі оперны тэатр мае свае традыцыі, вопытных кіраўнікоў, то аперэта наша толькі-толькі пачынае свой шлях. Нават дуэту трэба час, каб спецца, што ж казаць пра вялікі калектыў! Да таго ж умовы, у якія пастаўлены тэатр, пакідаюць пакуль жадаць лепшага. Але сілы ў тэатры ёсць, ёсць здольная моладзь з выдатнымі вакальнымі дадзенымі. Думаецца, кампазітарам варта прыкласці свае сілы для развіцця гэтага яшчэ мала распрацаванага ў беларускім мастацтве жанру. Думаю, што пры нашай дапамозе і пры тым энтузіязме, які ёсць у калектыве, гэты тэатр у недалёкім будучым зойме пачэснае месца ў нашым нацыянальным музычным мастацтве.

Хочацца пажадаць і кампазітарам, і выканаўцам вялікіх творчых здзяйсненняў!


## Г. ГЛУШЧАНКА, К. СЦЕПАНЦЭВІЧ


# ШЫРЫНЯ МУЗЫЧНЫХ ДАЛЯГЛЯДАЎ





ПА ІНТЭНСІЎНАСЦІ развіцця і па мастацкай значнасці ў другой палове 60-х гадоў — пасля V з'езда кампазітараў БССР—асаблівую цікавасць грамадскасці выклікае беларуская сімфанічная і камерна-інструментальная музыка. Новыя сімфоніі стварылі і старэйшы кампазітар М. Аладаў, і кампазітары сярэдняга пакалення Я. Глебаў, Л. Абеліёвіч, Г. Вагнер, і маладыя кампазітары Д. Смольскі, К. Цесакоў, і нядаўнія выхаванцы кансерваторыі А. Мдзівані, Г. Сурус.

**Гістарычныя даты — 50-годдзе Вялікага Кастрычніка, 50-годдзе БССР і Кампартыі Беларусі, 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, падрыхтоўка да XXIV з'езда КПСС — спрыялі творчай актыўнасці кампазітараў. Ідэйна-мастацкі змест і стылістычныя асаблівасці нацыянальнай сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі гэтых гадоў звязаны з лепшымі традыцыямі і ўзбагачаюцца пошукамі сучасных прыёмаў раскрыцця тэм і вобразаў. У найбольш ярніх творах сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі адчуваецца творчае асэнсаванне і глыбокае разуменне своеасаблівасці нацыянальнага фальклору.**

**У новых творах кампазітараў выявіліся пэўныя наватарскія адносіны да народна-песеннага матэрыялу (глыбокае пераўтварэнне інтанацыйных, ладава-гарманічных і рытмічных асаблівасцей фальклорных першакрыніц). Выбар новай інтанацыйнай лексікі, прыёмаў і выяўленчых сродкаў, у першую чаргу, быў абумоўлены актыўным зваротам кампазітараў да сучаснай тэматыкі, засяроджаннем іх увагі на вырашэнні вялікіх і складаных творчых задач.**

Напрыклад, у творах Л. Абеліёвіча, М. Аладава, Г. Вагнера, Я. Глебава выразна адчуваюцца рысы сучаснага сімфанічнага мыслення. Як вядома, Я. Глебаў на пачатку творчага шляху зарэкамендаваў сябе дапытлівым музыкантам-шукальнікам. Паказальныя ў гэтым кірунку пошукаў яго Другая і Трэцяя сімфоніі, Канцэрт для голасу з сімфанічным аркестрам, праграмная сюіта «Харэаграфічныя навелы». Тут мы адчуваем магутную плынь лірыка-драматычнага роздуму сучаснага чалавека-грамадзяніна, чулага да значных грамадскіх зрухаў. Своеасаблівым працягам гэтых пошукаў Глебава з'яўляюцца і яго тры сімфанічныя сюіты з музыкі балета «Выбранніца», «Альпійская сімфонія-балада» — канцэртны варыянт аднайменнага балета. Гэтыя творы напісаны ярка, сакавіта, з дасканалым веданнем магчымасцей аркестра, дэманструюць майстэрскае валоданне кампазіцыйнай тэхнікай. На нашу думку, Я. Глебаў прыкметна ўзбагачае тут выяўленчую палітру беларускай сімфанічнай музыкі.

Цікава і дапытліва працуе ў сімфанічным жанры Л. Абеліёвіч. Сучасная тэматыка жывіць яго творчую фантазію. Кампазітар арганічна ўспрыняў некаторыя вядучыя тэндэнцыі музычнага мастацтва нашага часу (Першая і Другая сімфоніі). Яго Трэцяя сімфонія, створаная да 50-годдзя Кастрычніка, багатая філасофскім зместам, прасякнута роздумам пра лёс чалавецтва ў эпоху рэвалюцыі. У розных аспектах у чатырох частках сімфоніі прадстае перад слухачамі герой, які аналізуе свае ўражанні ад навакольнага жыцця. Яго з'яўленне звязана то з журботна-трагічнай музыкай, то з мужна-суровай, то з прасветлена-лірычнай. Партытура Трэцяй сімфоніі — праца патрабавальнага мастака, здольнага адчуваць і перадаваць дух сучаснасці, яе інтанацыі і рытмы.

Здзіўляе і радуе чулае стаўленне да запатрабаванняў часу старэйшага беларускага кампазітара М. Аладава, які адыграў значную ролю ў развіцці беларускай нацыянальнай сімфанічнай музыкі на ўсіх этапах яе развіцця. Гаворка ідзе не толькі пра тэматычнае адлюстраванне рэчаіснасці, а і пра няспыннае ўзбагачэнне аўтарскай мовы здабыткамі сучаснай музычнай драматургіі.

Пераканаўчы прыклад — яго Дзевятая сімфонія, якую ён напісаў да 50-годдзя Беларускай ССР. У сімфоніі радуе жывы эмацыянальны тонус, аптымістычны жыццесцвярджальны настрой. Сустракаем у ёй і традыцыйныя для многіх жанраў нацыянальнай музыкі, у тым ліку і сімфанічнай, вобразы мінулага, дарэвалюцыйнай Беларусі. Пафас жа твораў — у апяванні свабоднага шчаслівага жыцця савецкіх людзей.

Дзевятая сімфонія вызначаецца сталасцю думкі і глыбінёй зместу, дакладнасцю і структурнай завершанасцю форм. Інтанацыйны лад яе бярэ пачатак з беларускага нацыянальнага меласу. Не аздобай, а натуральнай часткай музычнай тканіны ўплецены Аладавым у сімфонію гарэзлівая гуллівасць некаторых тэм (асабліва ў скерца), іх актыўная мелодыка-рытмічная варыяцыйная і паліфанічная распрацоўка, заснаваная на вычляненні і супастаўленні тэматычных элементаў. Часам успрымаеш асобныя выказванні аркестра як імправізацыйныя. Агульны эмацыянальны лад захапляе слухача багаццем псіхалагічнага зместу і аўтарскай індывідуальнасцю пісьма.

У рэпертуары беларускіх канцэртных калектываў і выканаўцаў іншых рэспублік краіны занялі трывалае месца творы Г. Вагнера.

Першая сімфонія кампазітара (1969—1970) ужо атрымала станоўчую ацэнку музычнай грамадскасці. Лірыка-драматычная па характары (з жанравым фіналам), яна аптымістычная па змесце, увасабляе вобразы савецкай рэчаіснасці, свет пачуццяў нашых сучаснікаў. Монатэматычная трохчасткавая кампазіцыя сімфоніі будуецца на рэльефнай, рытмічна завостранай валявой папеўцы, якая праходзіць у розных мелодыка-рытмічных і тэмбравых варыянтах праз усе часткі сімфоніі. Кампазітар праяўляе майстэрства ў трансфармацыі гэтай тэмы — яна ў аснове насцярожанага ўступу да сімфоніі, у імклівай дынамічнай галоўнай партыі першай часткі, гучыць у напорыстым фугата распрацоўкі, у рэпрызе і кодзе гэтай часткі, у паліфанічнай другой частцы. Інтанацыі яе ўплятаюцца і ў жыццярадаснае рондa фінала.

Дух часу выявіўся ў поўнай ступені ў сімфанічнай паэме «Брэсцкая крэпасць» Д. Камінскага, у вакальна-сімфанічных паэмах «Два аблічча зямлі» і «Бабскі век» Д. Смольскага, Чацвёртай сімфоніі Л. Абеліёвіча, у лірыка-драматычнай сімфоніі Г. Суруса, у Сімфоніі і сімфанічнай карціне «Пахаванне Хатыні» А. Мдзівані, у Другой сімфоніі К. Цесакова, прысвечанай гераіні беларускага народа Веры Харужай і ў іншых творах.

У жанрах беларускай камерна-інструментальнай музыкі адбываліся многія працэсы, аналагічныя тым, што і ў сімфанічнай музыцы. І тут ясна выяўляецца тэндэнцыя пашырэння вобразнай, тэматычнай і жанравай сфер, узбагачэнне музычнай выяўленчасці.

Сярод камерна-інструментальных кампазіцый гэтага перыяду назавём шэсць прэлюдый і фуг на тэмы беларускіх народных песень і Другі струнны квартэт Д. Камінскага, Паэму для скрыпкі і фартэпіяна і фартэпіянную санату Э. Тырманд, шэсць п'ес для віяланчэлі і фартэпіяна А. Багатыро-

Кім ЦЕСАКОЎ



# ПАКУЛЬ НЯМА ВЫДАВЕЦТВА...

— Хоць з'езд кампазітараў — гэта ў пэўнай меры і ўрачыстасць, па-свойму святочная справаздача, мне хочацца скіраваць увагу на тое, што трывожыць музычную грамадскасць. Гаворка ідзе пра выдавецкія справы.

Нядаўна мне даручылі загадваць музычнай рэдакцыяй выдавецтва «Беларусь», і яшчэ бліжэй «разгледзеў» праблемы, без вырашэння якіх працаваць цяжка. Азбучная ісціна, што песня або сімфонія пішуцца для таго, каб іх выконвалі артысты і аматары. Але ж перад тым, як яму трапіць да выканаўцы, твор трэба распаўсюдзіць, надрукаваць...

Да гэтага часу ў нас выходзіла музычная літаратура толькі вакальна-харавых жанраў і то ў асноўным малых форм: песня, хор, рэдка раманс. Зараз на старонках нашых выданняў знойдуць месца і буйныя формы. Пачнем са зборніка «Сцэны з беларускіх опер». У яго ўвойдуць па 1—2 сцэны з кожнай нашай оперы (іх усяго чатырнаццаць) з падрабязнымі звесткамі пра твор і яго аўтара. Думаецца, такі зборнік будзе каштоўным дапаможнікам для студэнтаў музычных навучальных устаноў, удзельнікаў вакальных гурткоў і студый. Потым выдадзім урыўкі з беларускіх кантат і араторый (магчыма, у двух тамах), сцэны з балетаў у перакладзенні для фартэпіяна, арыі з опер і г. д. Думаем аб выпуску некалькіх фартэпіянных канцэртаў для выканання ў чатыры рукі.

У даўгу мы і перад музычнымі школамі і калектывамі мастацкай самадзейнасці, для якіх даўно, вельмі даўно не выдаваліся зборнікі інструментальных твораў беларускіх кампазітараў. Пачынаючы з 1972 года, «Беларусь» пачне выдаваць фартэпіянныя творы, творы для духавых і народных інструментаў. Асобна выпусцім для дзяцей зборнік твораў для цымбалаў.

Не застануцца па-за нашай увагай і вучні агульнаадукацыйных школ. Для іх мы ўводзім новую серыю «Музыка—дзецям», у якой будуць выходзіць у асноўным інструментальна-харавыя і акапэльна-харавыя творы. Пачэснае месца зойме сярод іх беларуская народная песня.

Будзе прадоўжана добрая традыцыя выдавецтва — выпуск песенных зборнікаў для калектываў мастацкай самадзейнасці. Акрамя зборнікаў, у якіх сабраны творы розных кампазітараў, будзем выдаваць і аўтарскія. Ужо з'явіліся на прылаўках кнігарняў песні Ю. Семянякі, хутка выйдуць песні І. Лучанка і І. Кузняцова.

З цікавымі, сур'ёзнымі артыкуламі выступаюць беларускія мастацтвазнаўцы ў штогодніку «Музыка нашых дзён». Мы пастараемся павялічыць аб'ём гэтага выдання, прыцягнуць да ўдзелу ў ім самае шырокае кола аўтараў. Рэгулярна выходзяць манаграфічныя працы аб кампазітарах. Зараз рыхтуюцца да друку кнігі пра Я. Цікоцкага, П. Падкавырава, Ю. Семяняку, Я. Глебава.

І, як звычайна, у заключэнне — традыцыйнае «але»... Вельмі сур'знае «але». Нават калі мы выкарыстаем усе свае ўнутраныя рэсурсы, выканаем і перавыканаем намечаныя планы, наша рэдакцыя не зможа задаволіць тых патрабаванняў, якія маюць права прад'явіць да выдавецтва беларускія музыканты. Наша музыка дасягнула высокага ўзроўню, яна з кожным днём заваёўвае ўсё большую папулярнасць за межамі рэспублікі і нават краіны. І часам дырыжоры славутых аркестраў просяць у нашых кампазітараў іх творы, каб уключыць у свой рэпертуар, а тыя не могуць прапанаваць ім нічога, акрамя рукапісаў.

Многія рэспублікі маюць музычныя выдавецтвы, Украіна — нават два. Ці не час стварыць у Беларусі калі не музычнае, то хоць выдавецтва, якое займалася б спецыяльна пытаннямі мастацтва — музыкі, тэатра і кіно? Я глыбока перакананы, што гэта прынесла б вялікую карысць справе прапаганды нашага мастацтва, эстэтычнага выхавання працоўных.

У гэтым нас пераконваюць і нашы сябры па сумежных саюзах — кінематаграфісты, мастакі, дзеячы тэатра. Відаць, наш з'езд пацвердзіць рэальнасць і грунтоўнасць такой канкрэтнай прапановы.

---

ва. Санату для скрыпкі і фартэпіяна № 3 Л. Абеліёвіча, Санату для фартэпіяна І. Лучанка.

**Здабыткі ёсць значныя, і вопыт назапашаны багаты. Час ад папярэдняга з'езда кампазітараў рэспублікі да цяперашняга пашырыў творчыя далягляды стваральнікаў музыкі. Праўда, развіццё беларускай сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі не было гладкім працэсам, як гэта можа здацца на першы погляд. Не ўсе кампазітары паказваюць арганічнае і натуральнае разуменне творчай смеласці, а часам толькі паўтараюць вядомыя формы і прыёмы, толькі ўпрыгожваючы музыку моднымі аздобамі. Здараецца, што аўтары трапляюць у сферу самамэтнага эксперыментавання, звяртаюцца да празмерна ўскладнёнай мовы, якая не мае грунту ў мастацкай задуме твора.**

У эксперыментальным плане, сродкамі серыйнай тэхнікі напісана, напрыклад, Другая сімфонія Д. Смольскага — мала пераканаўчая ў мастацкіх адносінах, атанальная па музыцы. Мы перакананы, што празмернае, наўмыснае ўскладненне сродкаў музычнай выяўленчасці ёсць у творах А. Янчанкі (Фартэпіянае трыо, Канцэрт для віяланчэлі і духавога квінтэта), С. Картэса (Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам).

Як і заўжды ў пошуку, у музычных эксперыментах ёсць і крыўдныя страты.

Чацвёртая сімфонія для струннага аркестра (1968) Я. Глебава, лірыка-драматычная па змесце, прасякнутая суровым каларытам, пабудавана вынаходліва, дасціпна, у ёй умела падкрэслены інтанацыйныя сувязі ўнутры цыкла. Але ёй менш уласціва шырыня меладычнага дыхання, адкрытая эмацыянальнасць. У музыцы сімфоніі пераважаюць жорсткая дысанантная аснова і празмерна ўскладнёныя комплексы. Яны шкодзяць цеплыні і шчырасці рацыяналістычнасцю ў ажыццяўленні аўтарскай задумы. Імкненне адысці ад прывычных прыёмаў, знайсці нешта новае і незвычайнае тут робіцца амаль самамэтай. Чацвёртая сімфонія — дыскусійная. На нашу думку, гэта своеасаблівая лабараторная работа Я. Глебава.

**Зразумела, захапленне некаторых кампазітараў эксперыментамі не затармазіла развіццё беларускай сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі, бо галоўнае ў ёй — гэта арганічная сувязь з прынцыпамі мастацтва сацыялістычнага рэалізму, з лепшымі традыцыямі рускай і савецкай музычнай класікі, з нацыянальнай народнай музычнай творчасцю. А жыццё — невычэрпная крыніца тэм і вобразаў! Жыццёвай праўдай і трэба вывяраць кожны твор. Не варта лічыць дасягненнем любы эксперымент. Лепш будзе, калі мы будзем удумліва аналізаваць зробленае па высокіх крытэрыях.**

У творчасці Я. Глебава (у яго першых сімфоніях, балетах 60-х гадоў і іншых творах), Д. Смольскага (Першай сімфоніі, радзе камерна-інструментальных і вакальных твораў) можна знайсці нямала цікавых знаходак, прыкладаў закончанай і адточанай музычнай формы, наватарскага скарыстання народнай музычнай мовы. Гэтыя знаходкі (не толькі ў творах Я. Глебава і Д. Смольскага, але і многіх іншых) таксама трэба ўважліва вывучаць.

**Крытыцы яшчэ прадстаіць даць грунтоўную ацэнку і асобным творам, і новым тэндэнцыям у развіцці сімфанічнай музыкі, суадносіць здабыткі кампазітараў з эстэтычнымі патрабаваннямі нашага часу, робячы падзел паміж штучнай ускладнёнасцю музычнай мовы і жывым і арганічным пошукам мастака ў галіне формы.**

**Інтэрнацыянальны пачатак усё больш адчувальна пранікае ў беларускую сімфанічную і інструментальную музыку, засвойваецца нашымі кампазітарамі (у адпаведнасці са спецыфікай нацыянальнай формы). Назіраецца і «сустрэчны рух»: беларуская сімфанічная і інструментальная музыка (як і іншыя жанры), выкарыстоўваючы дасягненні братніх культур, выходзіць за рамкі рэспублікі. Лепшыя творы нашых кампазітараў усё часцей выконваюцца ў многіх рэспубліках, у Ленінградзе, Маскве, Кіеве і іншых гарадах краіны, дзе друк дае ім цікавыя ацэнкі.**

Названыя тут імёны і творы сучаснай сімфанічнай і камерна-інструментальнай беларускай музыкі даюць добрую спажыву для калектыўнага абмеркавання і асэнсавання. Мабыць, кампазітарскі з'езд не абміне іх, і мы ўзбагацім нашу крытычна-даследчую думку, якая дапаможа музыкантам яшчэ больш плённа весці творчыя пошукі ў адлюстраванні важных тэм нашага жыцця, сучасных праблем.

---

# ВЫПРАБАВАННЕ ВЫШЫНЁЙ

Жанчыны, пра якіх складаюць песні, якім прысвячаюць вершы, пра якіх здымаюць кінакарціны і якіх называюць крылатымі, не могуць не выклікаць зайздрасці. Невыпадкова ж у анкеце, якую правяла адна маладзёжная рэдакцыя, прафесія бортправадніцы заняла другое месца сярод самых папулярных. Мабыць, і аўтара гэтага рэпартажу ў рэзерв бортправадніц Мінскага аэрапорта прывяло не адно жаданне пашырыць свой далягляд...

Мабыць, не адна толькі прыгожая форма вабіць дзяўчат, але і адвечнае імкненне чалавека адарвацца ад зямлі на крылах. Калі дадаць, што ў інструкцыі бортправадніцы запісана, што яна павінна быць знешне прывабная, статная, заўсёды падцягнутая і прыгожа прычэсаная, дык думаецца, што зайздрасць гэтую можна дараваць...

Але пра інструкцыю я даведалася пазней, а спачатку трапіла на... экзамен. Звычайны, як у інстытуце, дзе пад дзвярыма аўдыторыі топчуцца самыя нерашучыя, потым, набраўшы ў лёгкія як мага больш паветра, пераступаюць парог, нібы скачуць упершыню з парашутам. Потым бяруць білет, разгубленa азіраюцца, калі ён «нешчаслівы», не адыходзячы ад стала чытаюць пытанні, а праз некалькі хвілін, супакоіўшыся, хуценька нешта занатоўваюць на аркушы паперы. Толькі вучаніцы тут крышку адрозніваюцца ад звычайных — усе ў аднолькавых элегантных прыталеных жакеціках, з высокімі прычоскамі.

— Першае пытанне,— строга патрабуе экзаменатар.

— Неабходная дапамога пры атручваннях вуглекіслым газам.

— Апішыце рэйс № 10 — 13, назавіце пункты следавання.

— Раскажыце пра асаблівасці перавозу друкарскіх матрыц на борце самалёта.

— Што вы раскажаце з гісторыі Мінска, падлятаючы да сталіцы Беларусі?

— Так, а зараз дайце інфармацыю пасажырам перад узлётам. Пачынайце са слабых тонаў. Вы ж напалохаеце пасажыраў. А цяпер набірайце голас. Сачыце за дыкцыяй.

Бадай, так трэніруюць дыктараў тэлебачання перад першым выхадам у эфір.

— Гаварыце проста, не дэкламуйце. Не надакучайце, — інфармацыя павінна быць лаканічная і змястоўная.

— Сядайце, чатыры...

Я на занятках, дзе праходзяць курс навічкі, а таксама павышаюць сваю кваліфікацыю кожныя два гады сталыя бортправадніцы. Дысцыплін, якія павінны вывучаць бортправадніцы, больш за дзесяць. Гэта і правілы абслугоўвання пасажыраў, і паветраны статут краіны, і самалётаваджэнне, метэаралогія, геаграфія паветраных зносін СССР, матэрыяльная частка самалёта, медыцынскае абслугоўванне, арганізацыя і правілы перавозак, грамадзянская абарона, палітпадрыхтоўка, а таксама этыка, эстэтыка, культура паводзін і культура мовы. Устрымаемся ад слова энцыклапедычныя, але веды сапраўды разнастайныя.

Аднак экзамен на сцюардэсу пачынаецца не з гэтых курсаў, а яшчэ раней — з медыцынскага пункта, дзе будучая бортправадніца праходзіць агляд не толькі ў тэрапеўта і кардыёлага, але нават і ў баракамеры, як і ўвесь лётны састаў. Выпрабаванне вышынёй, а яго, як вядома, вытрымлівае не кожны зямлянін, адно з галоўных. Пасля паспяховых экзаменаў і праверкі ў мандатнай камісіі будучая сцюардэса праходзіць не менш чым паўтарамесячную стажыроўку.

Можа скласціся ўражанне, што аўтар наўмысна імкнецца кагосьці напалохаць усімі гэтымі цяжкасцямі. Але гэта рэдка каго палохае. Дзяўчат, якія хочуць стаць сцюардэсамі, вельмі многа. Сярод іх настаўніцы, эканамісты, філолагі, юрысты, біёлагі, не кажучы пра дзяўчат розных рабочых прафесій і учарашніх школьніц.

І нічога, што пасля таго, як прысвояць кваліфікацыю бортправадніцы 3 ці 2, дзяўчына яшчэ доўга будзе займацца поштай, багажом, кухняй. Так, так, самай звычайнай кухняй, толькі ў паветры. Выйсці да пасажыраў мае права толькі паветраны «ас»—бортправадніца 1. Сярод дзевяноста чалавек рэзерву Мінскага аэрапорта нямала вопытных, сталых, такіх што знайшлі сваё месца ў жыцці. Гэта і Віка Сарманд, і Зіна Паваротная, і Жана Навакоўская, і Саша Скуратовіч, і Нэля Людына...

Гутару з Сашай Скуратовіч. Распытваю пра будні, штодзённую працу, сям'ю. Так, ёсць і сям'я, сын у другім класе. А ў некаторых і па двое дзяцей. Што за дзіва. Некаторыя ўжо лётаюць па 12 гадоў. «Гэта толькі пасажыры ўсіх нас называюць дзяўчатамі. Інакш як «девушка» і не звяртаюцца. А, дарэчы, дванаццаць гадоў — гэта стаж, які дае права на пенсію, праўда, пры ўмове, што ты прабыў у паветры неабходную колькасць гадзін. Між іншым, у сцюардэс ёсць свой тэрмін «налётаць пенсію».

— Саша, ну, а паколькі ёсць сям'я, ёсць, мабыць, і зямныя клопаты. Як вы іх сумяшчаеце з нябеснымі?

— Сумяшчаю, — усміхаецца яна. — Хоць і цяжкавата даводзіцца. Муж таксама лётае. Вось часам і кірую выхаваннем сына па тэлефоне. З Ленінграда, Новасібірска або з якога іншага горада.

— З вольным часам у нас наогул вельмі складана. Дарэмна думаюць, што наша праца — адны святы. Нярэдка і адзін выхадны для сябе не выкраіш. Самі разумееце, — жаночы калектыў. То водпускі, то дзіця хварэе, то вяселлі. (У нас неяк толькі за адзін месяц шэсць вяселляў справілі). І ўсіх трэба падмяніць у палёце. А падмяніць не кожны можа.



А ўсё-такі добра, калі мама на зямлі!.. Саша Скуратовіч з сынам.
Фота З. БРУКА.

Трэба ж вучыцца тры месяцы, стажыравацца, ды і медкамісія строгая. А калі надвор'е нялётнае, дык мы не менш за пасажыраў пакутуем, — сядзім на аэрадроме, як кажуць, не дома і не замужам. А потым і ў нашай прафесіі шмат чарнавой работы: афармленне розных дакументаў, праверка багажу, вядзенне гаспадаркі—і на кухні, і ў салоне. Ды і шмат якая тэхніка ляжыць на нашых плячах — электраапаратура, кіслароднае абсталяванне, расход паветра ў салоне, рэгуліроўка тэмпературы. І ўсё трэба рабіць з добрым настроем, з гасціннай усмешкай. Вядома, ты — гаспадыня, а пасажыры — твае госці. Ужо не кажу пра тое, што пасажыры бываюць розныя. Бывае, што і да парадку трэба заклікаць. Іншы адарваўся ад зямлі і думае, што ніхто цяпер яму не ўказ. Міліцыі ж з крыльцамі не бывае...

Слухаю, згаджаюся. Сапраўды — нялёгкая, складаная, адказная праца.

— Ну, а каб змяніць прафесію, калі так ужо цяжка?

— Ой, што вы, — нават спалохалася мая субяседніца. — Здаецца, кіну лётаць і адразу пастарэю. У мяне ўжо ў небе, як і на зямлі, любімыя сцежкі ёсць. А ідзеш у рэйс, — асабліва люблю самыя раннія рэйсы ўлетку, — яшчэ горад спіць і гэткая свежасць і ў паветры і на душы. Гэта ж сапраўды свята, якое заўсёды з табой. Нібы ў цябе вырастаюць крылы.

— І недзе тоіцца адчуванне, што ты не такая, як усе?

— Ёсць і такое.

Мабыць, зараз, калі пішуцца гэтыя радкі, Саша дзесці ў палёце.

Але на якой бы нябеснай сцежцы яна ні была, хай сцежка гэтая будзе шчаслівай.

Р. БАКУНОВІЧ.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЧАЛАВЕК У ДАРОЗЕ

Я ВЕДАЮ гэтага чалавека даўно — з маленства. Памятаю яго маладзы адкрыты твар з неслухмянымі пасмамі русявых валасоў, якія спадалі на высакаваты лоб. Памятаю паходку — з размераным, але размахлівым крокам. Паходку, відаць, больш, бо я заўсёды доўгім позіркам праводзіў добра знаёмую мне постаць — праводзіў позіркам хлапчука, які колькі разоў ужо ў слонімскім музеі ўчытваўся ў звонкае незвычайнае імя гэтага чалавека на невялічкай кніжачцы вершаў. Імя было — Анатоль Іверс. Кніжачка: «Песні на загонах».

Кніжачка выйшла ў 1939 годзе, калі ўжо над Варшавай гулі фашысцкія месершміты, калі санацыйная Польшча канала.

Сапраўднае імя паэта — Іван, сын Дарафея, Міско. Ды я гэтага не ведаў: я ведаў, хто такі Анатоль Іверс. Толькі праз гады мне пашчасціла бліжэй пазнаць самога Івана Дарафеевіча.

Пэўна, адным з маіх першых пытанняў да яго было пра псеўданім. Іван Дарафеевіч адказаў, што калі ён выбіраў псеўданім, яму хацелася, каб у ім чуліся і тыя гукі, з якіх пачынаюцца словы «Інтэрнацыянал», «рабочы», «селянін».

І гэта зразумела. 30-я гады ва ўмовах былой Заходняй Беларусі нараджалі новы тып рэвалюцыйнага інтэлігента і паэта. Ён, Анатоль Іверс, быў сынам заходнебеларускай, сярмяжнай вёскі, якая ўжо прайшла школу Грамады.

Сын селяніна з вёскі Чамяры, што каля Слоніма, Іван Дарафеевіч Міско свой творчы шлях пачаў яшчэ ў канцы 20-х гадоў у Віленскай беларускай гімназіі, дзе разам з Валянцінам Таўлаем выпускаў рукапісныя часопісы «Золак», «Пралескі». Тройчы выганялі паны юнака-камсамольца з гімназій — з Віленскай, Клецкай, Навагрудскай. Тройчы аддавалі яго пад суд.

Ён пачаў друкавацца на старонках часопіса «Літаратурная старонка». Паэтыка яго даверасненёўскіх вершаў выразна паказвае, што іх аўтар знаёмы быў і з рамантычна-пафаснай беларускай савецкай паэзіяй 20-х гадоў, і з украінскай савецкай паэзіяй таго часу, і з перадавой авангардысцкай польскай паэзіяй.

Мне падабаліся многія радкі з першай кнігі паэта. Па форме лірычныя вершы А. Іверса даверасненёўскага часу часцей за ўсё імпрэсіі — з рамантызаванымі, пераважна пейзажнымі, радзей — бытавымі дэталямі:

> І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
> Паліць смагаю мяккую сінь,
> Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
> Калі можна паднягь парусы!..

Дваццаць шэсць вершаў было ў першай кніжцы Іверса. Большая палова з іх увайшла сёння ў выбранае.

Усе яны — вельмі выразныя сваім палітычным крэда вершы-споведзі юнака, улюбёнага ў родны край.

«...У сялянскіх хатах хлеб як рэдкі госць, — пісаў паэт у сваім першым друкаваным вершы «Вясна». — Ў далях сіняватых лес шуміць чагось». І гэта была не простая канстатацыя з'яў, не сузіральніцтва: паэт раскрываў незадаволенасць шырокіх народных мас санацыйнымі парадкамі буржуазнай Польшчы, яго радкі прадвяшчалі буру, набліжалі яе.

Свае вобразы знаходзіў паэт і для выражэння нядолі: «вачыма калоссе» зрывае ў яго для галодных дзяцей у чаканні жніва мужык, і ён жа «ловіць песенны той пераліў, што не знае былля і мяжы», ён жа верыць, што «прыйдуць трактары ў палымя ніў, туды, дзе некалі колас тужыў».

Малады паэт увесь час звяртаў увагу таго ж мужыка на ўсход, дзе

> І сярпом, і молатам
> Шчасце звоніць весела,
> Дзе ў краіне волатаў
> Волі сцяг развесілі.

Лейтматывам даверасненёўскай паэзіі А. Іверса была глыбокая вера:

> Мне хочацца верыць
> Ў агні, што мігцяць,
> Што зменіцца шэры
> Парадак жыцця...

Сам я, вядома, і ўбачыў першую кніжачку А. Іверса, і прачытаў яе толькі пасля векапомнага 17 верасня 1939 года. А бліжэй пазнаў Івана Дарафеевіча яшчэ пазней. І ўсё ж як доўга я ведаў гэтага чалавека, і — не ведаў!...

У час акупацыі Анатоль Іверс хадзіў па Слоніме. Бачыў я паэта разам з першай яго жонкай Верай. Бачыў поруч з маім настаўнікам беларускай літаратуры Леанідам Сенчыкам, — бачыў і не бачыў.

З Калдычэва, замучаныя фашысцкімі катамі, не выйшлі жывымі жонка Івана Дарафеевіча і яго бацька, не выйшаў Леанід Сенчык і многія іншыя, што складалі ядро слонімскага міжраённага антыфашысцкага падполля.

Гэта цяпер я ведаю, што 15 красавіка 1942 года па заданні антыфашысцкай арганізацыі і партызан І. Д. Міско пайшоў на падпольную работу ў Слонім. Гэта з таго часу і да 25 ліпеня 1943 года ён узначальваў слонімскую гарадскую падпольную арганізацыю. 25 лістапада, папярэджаныя партызанамі, ён, жонка, бацька ўцякалі ад фашыстаў. Акалічнасці паспрыялі не ўсім...

Стаўшы партызанам, Іван Дарафеевіч быў намеснікам камандзіра па разведцы атрада імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага, уваходзіў у склад камітэта міжраённай антыфашысцкай арганізацыі, пасля быў прызначан сакратаром гэтага камітэта. Не раз хадзіў на баявыя заданні. Дапамагаў выдаваць орган падпольнага райкома партыі «Вольная праца».

Не дзіва тады, што суровым драматызмам, нотамі высокага трагічнага гучання поўніцца шэраг ваенных і пасляваенных вершаў Анатоля Іверса. «Гляджу на лес» і «Партызанскія прасторы» — наймацнейшыя ў кнізе «З пройдзеных дарог» увогуле.

> Заўжды ў маім збалелым сэрцы
> Гарыць агонь надзей і дат, —

прызнаецца паэт у першым з іх, і не можаш не верыць гэтаму збалеламу сэрцу.

Вобразы соснаў раз-пораз узнікаюць у пасляваенных вершах А. Іверса не толькі сведкамі партызанскіх гадоў («Тры сасны», «Мосцік», «Перамога! Перамога!...»), не толькі таму, што паэт «родам... з гэтых лясных мясцін» («Лясная ідылія»). Доўгі час у пасляваенныя гады — з 1949-га па 1965-ы — паэт працаваў майстрам смолзавода, тэхнаруком Слонімскага лесахімічнага завода. Праца забірала шмат сілы. Абставіны былі складаныя, і тым больш здзіўляешся светлай упэўненасці, духоўнай нязломнасці вершаў паэта 50-х гадоў — вядома ж, нешматлікіх («Валянціну Таўлаю», «Лісткі календара», «Спарышы»).

Затое 60-я гады можна назваць часам новай актывізацыі паэта. У 1964 годзе напісана «Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько» і, па сутнасці ў гэты час напісана большасць лірычных вершаў, што склалі кнігу «З пройдзеных дарог». Прычым у гэтых вершах радуе ранішняя свежасць голасу паэта, арганічнае далейшае развіццё ў іх таго рамантычна-ўздымнага, стылёва своеасаблівага, што вылучала вершы А. Іверса 30-х гадоў.

Вершы паэта 60-х гадоў «Сасна», «Паэзія», «Блакітная хусцінка», «Ключык сіні», «Вера», «Малюся я» — хочацца перачытваць. І гэта не толькі ад маіх зямляцкіх пачуццяў: за імі мне бачыцца сам паэт, якім ён ёсць у жыцці, — скупаваты ў выражэнні сваіх пачуццяў, стойкі ў перакананнях, крышку замкнёны ў сабе, заўсёды прамы, хоць часам і да просталінейнасці.

Яна ўсё з ім, неадступная вера паэта:

> І я наперад рад ісці,
> Бо ў будучыню верыцца.

З 1965 года І. Міско працуе ў рэдакцыі слонімскай раённай газеты «За перамогу камунізма». Ён кіруе літаб'яднаннем пры газеце, сам часта друкуецца ў ёй. Ужо не толькі даверасненёўская кніга экспануецца сёння ў раённым музеі. І мне верыцца, што і сёння бегаюць па слонімскіх вуліцах хлапчукі, якія, як калісь я, доўга праводзяць вачыма гэтага пасівелага ўжо, ды па-маладому натхнёнага ў працы, у вершах, у сваіх задумах чалавека.

**Алег ЛОЙКА.**

---

Анатоль Іверс. «З пройдзеных дарог». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

# ДАПЫТЛІВАМУ ЧЫТАЧУ

**Выйшаў у свет «Кароткі даведнік кнігалюба». Яго складальнікі — рэдактары выдавецтва «Книга» — «мелі на ўвазе чытача, які любіць кнігу і звяртаецца да яе пастаянна». Яны імкнуліся пасобіць такому чытачу ў пошуках і набыцці кніг, якія яго цікавяць.**

**Першыя старонкі гэтага дапаможніка знаёмяць з некаторымі статыстычнымі дадзенымі аб выданні твораў У. І. Леніна. Ленінскія ідэі сталі неад'емным набыткам усіх працоўных: яны гучаць на 110 мовах свету. Амаль усе народы і народнасці Савецкага Саюза могуць вывучаць работы У. І. Леніна на сваёй роднай мове.**

**Прыведзены лічбы аб выданні кніг у СССР, імёны пісьменнікаў, якіх найбольш выдаюць.**

**У нашай краіне шырокая сетка выдавецтваў. У кожнага выдавецтва або кожнай групы выдавецтваў свае дакладна спецыялізаваныя задачы. Даведнік указвае адрасы выдавецтваў СССР і іх галіновую накіраванасць, знаёміць у агульных рысах з тым, як робіцца кніга, дзе можна даведацца пра маючую выйсці літаратуру, як зрабіць папярэдні заказ на патрэбнае выданне, як і ў якіх магазінах атрымаць кнігу па пошце. У чытача складзецца пэўнае ўяўленне аб сістэме бібліятэк у СССР, ён знойдзе кароткія даведкі пра цэнтральныя бібліятэкі нашай краіны і буйнейшыя зарубежныя бібліятэкі, правілы карыстання масавай бібліятэкай. Змешчаны агляд асноўных крыніц бягучай бібліяграфіі, якія паведамляюць пра новыя творы айчыннага і замежнага друку ў розных галінах навукі.**

**Кнігалюбу будзе цікава пазнаёміцца з кнігамі, аўтары якіх удастоены Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР, з лепшымі выданнямі па мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні, з вядомымі мастакамі кніжак.**

**Знойдзе чытач у даведніку і парады, як арганізоўваць хатнюю бібліятэку, выбраць экслібрыс. Ёсць у ім і невялічкі выдавецка-паліграфічны слоўнік.**

---

«Кароткі даведнік кнігалюба». На рускай мове. Пад агульнай рэдакцыяй А. Э. Мільчына. Выдавецтва «Книга», Масква, 1970.

# «НАША МАМА»

*Так называецца зборнік, які нядаўна выйшаў у Кіеўскім выдавецтве «Містецтво». У яго ўвайшлі вершы і песні з нотамі, сцэнічныя абразкі, харэаграфічныя пастаноўкі. Апрача ўкраінскіх аўтараў тут ёсць і пераклады твораў рускіх, беларускіх, грузінскіх, літоўскіх і латышскіх паэтаў.*

*З беларускай дзіцячай паэзіі ў зборнік ўвайшлі вершы С. Шушкевіча («Вось унукі дык унукі», «Кухаркі») і Р. Барадуліна («Ай») у перакладах В. Болдыравай. Вялікая па фармаце кніга багата афармлена каляровымі малюнкамі, выдадзена на добрай паперы. Склала кнігу Ала Бялінская.*

**М. БАНЬКО.**

# З КРЫНІЦ ЖЫВАТВОРНЫХ

Процьма розных паноў і падпанкаў вялася ў тыя часіны бяспраўя на нашай зямлі. І ўсе яны былі гэткімі разумнікамі: здавалася, хлебам не кармі, а толькі дай пакпіць, панасміхацца з селяніна, што па-мужыцку працавіта цягнуў свой лямец хлебароба-карміцеля.

Толькі працавітага чалавека не так лёгка было затуркаць, зняславіць. Не падаў духам ён перад «мудрасцю» разумніка-пана. Вечна віравала ў ім прыродная нескаронасць, вольнасць душы, неадольная прага «людзьмі звацца». Бараніў ён свой гонар чалавека — дзе не мог сілаю, дык хоць бы трапным слова-адказам, з'едлівым мужыцкім жартам.

«Старэнькі селянін, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:

— Ці не тут прадаюцца хамуты?

— Не, стары, — адказваюць яму два франты, — тут прадаюцца толькі дурні.

— Бач! — круцячы галавою, дзівіцца стары. — Відаць, і торг ідзе добра, бо толькі два і засталося».

Гэты кароткі дасціп узяты са зборніка «Беларускія народныя жарты», які нядаўна з'явіўся на паліцах нашых кнігарань і бібліятэк. Прыгожа афармленая невялікіх памераў кніжка, затое якая багатая: у ёй некалькі соцень жартаў, анекдотаў, дасціпаў, каламбураў! Розныя яны, гэтыя карацелькі-смяшынкі, па эмацыянальнай афарбоўцы — ад сацыяльнай іроніі і сарказму да звычайнага сяброўскага жарту, іскрыстай незласлівай выдумкі.

Па сваёй тэматыцы зборнік складаецца з чатырох раздзелаў: «Селянін рассудзіў», «На злодзеі шапка гарыць», «Які салавей, такая і песня», «Каму смех, а каму слёзы». Аднак такі тэматычны падзел можна ў значнай меры лічыць умоўным. Выключэнне складае хіба што толькі першы — «Селянін рассудзіў», дзе ўсе гумарыстычныя творы маюць пэўную сацыяльную накіраванасць: яны прасякнуты пафасам маральнай перавагі працоўнага чалавека над сваімі прыгнятальнікамі. Панская фанабэрыя, чэрствасць атлусцелай душы захрыбетнікаў, бюракратызм капіталістычнай дзяржаўнай машыны, цемрашальства, двудушша боскіх служкаў — вось тыя мішэні, у якія трапна цэліць смехам просты селянін.

«**Дзяк.** Што гэта ты, айцец, гарэлку п'еш? Яна ж вораг чалавека.

**Поп.** Гарэлку я п'ю, бо ў евангеллі сказана: «Палюбі ворага свайго».

Каму толькі не дастаецца ў гэтым зборніку «на арэхі», хто толькі не трапіў пад прыцэл сатыры і гумару! Тут і абібок, і хцівец, і крывадушнік, і п'яніца, і рыбак-манюка, і «разумны» зяць са сваёю цешчаю. Вялікая выбуховая хваля гумару закладзена ў большасці жартаў, анекдотаў, дасціпаў гэтай кнігі.

Безумоўна, смех — не самамэта гэтага зборніка. Пра гэта добра сказаў Ніл Гілевіч у сваёй прадмове, якой адкрываецца зборнік.

Смех народа — хіба гэта не ягоны крытычны розум, не доказ таго, што працаўнік-чалавек умее думаць, адрозніваць добрае ад благога? Хіба смех — не адзнака маральнага здароўя народа, яго жыццесцвярджальнай сілы?

Патрабавальны чытач зможа некаторым творам гэтага зборніка кінуць папрок, што яны ўжо неаднойчы чутыя, казаныя-пераказаныя. Скажам, пра Ціта, якога клічуць малаціць, або пра лайдака, якому бацькавы штаны кароткія, ці пра мужыка, які нёс боты на плячы, шкадуючы іх, і злупіў аб камень пазногаць на назе. Магчыма гэта і правамерна ў нейкай ступені. Аднак вусная народная творчасць — гэта жывая душа народа, і яна не сёння нарадзілася. Пры складанні зборнікаў фальклорнага характару было б недаравальна кіравацца эфектам нечаканасці для кожнага чытача.

Правамерна лічыцца, што не ўсё варта прымаць за гумар, ад чаго можна зарагатаць. Гумар мае свае межы дазволенага, сціпласць, розум, мэту. Ды і сённяшні чытач ужо не той малапісьменны селянін, якім ён быў некалькі дзесяцігоддзяў назад. Ці не дзеля больш моцнай «убойна»-гумарыстычнай сілы — пасмяшыць чытача ўключаны ў зборнік асобныя малазыразныя, нясціплыя анекдоцікі і жарты? Хоць бы той, у якім высмейваецца даверлівасць дзяўчыны — стар. 84, або пра жонку-пілу—стар. 97. Ёсць няўдалыя прыклады і «чорнага гумару»: навагодняе пажаданне трасцы невядома каму — стар. 141, пра тапельца з бутэлькай гарэлкі ў кішэні — стар. 117.

Безумоўна — гэта не лыжка дзёгцю, якая псуе зборнік. Заўважаныя недахопы настолькі мізэрныя, што яны бясследна патанаюць у хвалях сапраўднага чыстага гумару. Складальнік зборніка Змітро Бяспалы зрабіў чытачам добры падарунак— даў некалькі гадзін цудоўнага, узнёслага настрою і роздуму.

Фальклорная спадчына нашага народа даволі значная. Толькі маленькая часцінка з гэтага багацця змагла ўмясціцца ў зборнік «Беларускія народныя жарты». Але яна ўвасквашае нялёгкі шлях узмужнення нашай чалавечай годнасці, гісторыю разумення і бачання працоўным народам вялікіх ідэалаў, яго ўпартую барацьбу за здзяйсненне гэтых ідэалаў.

Гэта добра, калі народ смяецца.

**В. РАБКОЎ.**

---

«Беларускія народныя жарты». Выдавецтва «Беларусь». 1970.

# ВЕЧАРАМІ Ў «КУПАЛАЎЦЫ»

**ПІСЬМЕННІКІ — СЯБРЫ БІБЛІЯТЭКІ ⊙ КНІЖНЫЯ АГЛЕДЗІНЫ ⊙ БУДУЧЫЯ БУДАЎНІКІ — ЗАЎЗЯТЫЯ ЧЫТАЧЫ ⊙ РЫХТУЕЦЦА ВЕЧАР «МЫ — КУПАЛАЎЦЫ»**

У ТОЙ ВЕЧАР у чытальнай зале не было звыклай цішыні, калі чуваць толькі шоргат старонак і зрэдку прыглушаны шэпт. На гэты раз тут гучалі галасы, часам і смех, і дасціпны жарт. У зале выступалі беларускія паэты.

Агляд творчасці маладых зрабіў доктар філалагічных навук, паэт Алег Лойка. Расказалі аб сваіх творчых планах, прачыталі новыя вершы Жэня Янішчыц, Уладзімір Скарынкін. Чытачы цэнтральнай Мінскай гарадской бібліятэкі імя Я. Купалы задалі многа пытанняў, падзяліліся думкамі, уражаннямі аб маладой беларускай паэзіі. Сталыя наведвальнікі «Купалаўкі» Генадзь і Мікалай Камароўскія, Вячаслаў Мухін і Генадзь Пашкоў таксама прачыталі свае творы.

Цікавая гутарка адбылася ля кніжнай выстаўкі, прысвечанай беларускай паэзіі. Дарэчы, выстаўка была багатая. Тут і зборы твораў славутых нашых паэтаў, і тоненькія кніжачкі пачаткоўцаў, якія толькі ўступаюць у літаратуру.

Так прайшла адна з «краязнаўчых пятніц», якія з леташняй восені пачала праводзіць бібліятэка імя Я. Купалы.

Адна пятніца была прысвечана выхаду пяцісотага нумара старэйшага беларускага часопіса «Полымя». Пісьменнікі Павел Кавалёў, Аляксей Русецкі, Іван Пташнікаў, Лідзія Арабей расказалі аб планах часопіса, аб сваіх творчых задумах. З цікавасцю знаёміліся чытачы з выстаўкай «На старонках часопіса «Полымя».

Пабывалі на «краязнаўчых пятніцах» і пісьменнікі—лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Але не толькі па пятніцах людна ў чытальнай зале. Шмат робіцца цікавага і ў іншыя дні. Розныя формы і метады масавай работы выкарыстоўвае бібліятэка імя Я. Купалы для прапаганды беларускай літаратуры. Гэта і чытацкія канферэнцыі, і дыспуты па новых кнігах, і вусныя часопісы.

Старонка аднаго з вусных часопісаў называлася «Беларускія пісьменнікі — партыйнаму з'езду». Гасцямі чытачоў былі Мікола Аўрамчык і Уладзімір Юрэвіч. Багатая кніжная выстаўка «Літаратуры дзень сённяшні» як бы ілюстравала цікавыя і змястоўныя выступленні пісьменнікаў.

Неяк я зазірнуў у чытальную залу. На сталах уздоўж сцяны было раскладзена багата кніг беларускіх аўтараў. Людзі падыходзілі да сталоў, разглядалі, гарталі кнігі. Некаторыя бралі, садзіліся падалей і паглыбляліся ў чытанне. Праз тры дні я ўбачыў новую выстаўку — агляд літаратуры па марксісцка-ленінскай філасофіі, а пазней — па атэізме, краязнаўстве. Словам, па ўсіх галінах ведаў. Такім чынам, кожны чытач можа зрабіць свайго роду падарожжа ў сховішчы бібліятэкі, сам-насам пазнаёміцца з яе багаццем.

Варта адзначыць, што работнікі бібліятэкі не абмяжоўваюцца сценамі чытальнай або абанементнай залаў. Сталі традыцыйнымі вечары, канферэнцыі чытачоў, якія бібліятэка арганізуе разам з работнікамі цэнтральнага дзіцячага парку імя Горкага.

Часцяком праводзіць бібліятэка чытацкія канферэнцыі, дыспуты ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы будаўнікоў № 25. У апошні час тут адбылася канферэнцыя па рамане Івана Шамякіна «Снежныя зімы». Рыхтуецца вечар-дыспут па кнізе Уладзіміра Карпава «Вясеннія ліўні». На сустрэчу абяцаўся прыйсці і сам аўтар. Дарэчы, Уладзімір Барысавіч Карпаў—даўні і верны сябар «Купалаўкі». Шмат разоў сустракаўся ён з чытачамі бібліятэкі, расказваў аб сваіх творчых планах, прыслухоўваўся да заўваг і пажаданняў чытачоў. Думаецца, што такое сяброўства карысна для абодвух бакоў.

Карацей кажучы, масавая работа бібліятэкі значна ажывілася ў апошнія гады. Мацнейшымі сталі сувязі з літаратурным купалаўскім музеем, драматычным тэатрам імя Янкі Купалы.

Яшчэ большаму ўмацаванню сяброўства гэтых калектываў паспрыяе вялікі вечар «Мы — купалаўцы», што задумалі правесці работнікі бібліятэкі разам з тэатрам і музеем, якія носяць імя славутага беларускага паэта.

Што ж, задума добрая. Трэба толькі ажыццявіць яе па-сапраўднаму, грунтоўна падрыхтаваць, без залішняй паспешлівасці. Мабыць, варта прыцягнуць і супрацоўнікаў музея ў Вязынцы, на радзіме песняра. Дарэчы, неяк раней бібліятэка праводзіла там літаратурны вечар. Землякі паэта засталіся вельмі задаволенымі.

Словам, дарога ў Вязынку вядома работнікам «Купалаўкі». Пажадана, каб і супрацоўнікі музея часцей заглядвалі ў Мінск да сваіх сяброў.

— Задум у нас нямала, — расказвае загадчыца бібліятэкі Аляксандра Сцяпанаўна Костылева. — Ажыццяўляць іх, вядома, нялёгка. Памяшканне ў нас цеснаватае. Праўда, будуецца новае. Гады праз два справім наваселле... Абмяжоўвацца сценамі ўласнага памяшкання не думаем. Будзем праводзіць канферэнцыі чытачоў і ў падшэфным прафесійна-тэхнічным вучылішчы, і ў музеі, і ў парку. Так ужо нам лёсам наканавана, бо і нарадзілася бібліятэка ў парку...

Так, у сорак дзевятым годзе, калі ўтварылася бібліятэка, спачатку яна знаходзілася ў парку культуры і адпачынку імя Горкага. Праз тры гады яна перабралася ў сваё памяшканне і стала насіць імя беларускага песняра.

Калі праглядаеш тую кароткую гісторыю, што напісана пра дзейнасць бібліятэкі, нельга не заўважыць адну акалічнасць: беларускія пісьменнікі старэйшага пакалення часцяком заходзілі сюды, каб параіцца са сваімі чытачамі, пачуць іх уражанне аб прачытаным. Гэта той самы камертон, які патрэбен кожнаму літаратару.

Карацей, сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі «Купалаўкі» сталі традыцыяй. І ўсё ж...

— Хацелася б, каб ахвотней ішлі да нас літаратары. І масцітыя, і пачынаючыя. А то, бывае, выдаў паэт адну-дзве кніжкі, і да яго ўжо не падступіцца, — гэта гаворыць загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі Ліна Міхайлаўна Сачко. — Нават мой зямляк, я родам з Капыльшчыны, Анатоль Астрэйка падвёў нас. Абяцаў, абяцаў, але так і не прыйшоў. А колькі мы прасілі Анатоля Вялюгіна! Не даправіліся... Трэба тут нешта зрабіць, каб не было падобных здарэнняў. Вельмі не задаволены мы адносінамі бюро прапаганды беларускай літаратуры да нас, а дакладней, да сваёй справы. Яны заўсёды прапануюць адных і тых жа людзей. Быццам на двух прозвішчах сышлася клінам уся наша літаратура... А мы робім, па сутнасці, адну справу. Мы ж пасрэднікі паміж пісьменнікамі і чытачамі...

Бадай, нельга не пагадзіцца з гэтым.

Ці ўсё робіць «Купалаўка» для прапаганды беларускай літаратуры ўвогуле і багатай літаратурнай спадчыны Янкі Купалы?

Вядома, не. Трохі бракуе яшчэ работнікам бібліятэкі баявітасці і мэтанакіраванасці ў прапагандзе беларускай літаратуры. У тым жа прафесійна-тэхнічным вучылішчы, якое рыхтуе будаўнікоў, дзе столькі моладзі, можна арганізаваць вялікі гурток сяброў Купалава слова, сяброў беларускай літаратуры. Цікавейшымі і больш масавымі былі б тады канферэнцыі чытачоў і вечары паэзіі.

Відаць, магла б больш дапамагаць «Купалаўцы» фундаментальная бібліятэка Акадэміі навук рэспублікі, якая носіць імя Якуба Коласа. Творчы кантакт паміж гэтымі ўстановамі культуры мог бы прынесці значны плён.

У будучым годзе грамадскасць нашай рэспублікі будзе шырока адзначаць дзевяностагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Рыхтавацца да гэтых знамянальных дат трэба ўжо цяпер.

Дружны калектыў працуе зараз у «Купалаўцы». Людзі тут падабраліся энергічныя, шырока адукаваныя. Варта сказаць добрае слова пра старшых бібліятэкараў Валянціну Бабічаву, Зінаіду Баброву, старшага бібліёграфа Марыю Сокал. Гэта яны добразычліва і ветліва сустракаюць наведвальнікаў у чытальнай зале і на абанеменце, нібы тыя лоцманы, дапамагаюць знайсці ў кніжным моры патрэбны «астравок», афармляюць багатыя і цікавыя кніжныя выстаўкі.

...Вечар. Мякка свецяцца вокны «Купалаўкі». Людна ў чытальнай зале. Тут цішыня. Чалавек прыйшоў сюды, каб пабыць сам-насам з кнігай, сустрэцца з любімым паэтам.

А ў калідоры вісіць аб'ява. Значыць, неўзабаве будзе цікавы дыспут або канферэнцыя чытачоў. Будуць новыя незабыўныя сустрэчы і гарачыя спрэчкі аб літаратуры.

**Л. ЛЯВОНАЎ.**

# НЯСТОМНЫ ПРАЦАЎНІК

У РЭДАКЦЫІ маладзечанскай газеты «Святло камунізма» ідзе чарговая літсерада. Пачаткоўцы чытаюць вершы, апавяданні, замалёўкі, гумарэскі.

Мікола Іванавіч Ермаловіч бярэ ў рукі ёмісты сшытак, спісаны вершамі юнай паэтэсы. Тонкі падыход, кваліфікаваны разбор спрактыкаванага крытыка разумеюць і не крыўдзяцца. Не ўпершыню гэта. Калісьці гэтак жа нясмела паказвалі яму свае творы Алесь Бажко, Арсен Ліс, Адам Мальдзіс, а пасля і аўтары гэтых радкоў. Больш чым дваццаць гадоў Мікола Іванавіч працуе з творчай моладдзю.

Амаль дзесяць гадоў М. Ермаловіч чытаў лекцыі па беларускай літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Амаль у кожным кутку Беларусі працуюць у школах яго выхаванцы. Колькі было цікавых літаратурных вечароў! А разгортваючы абласную газету, яны часта бачылі падвалы і развароты, падпісаныя прозвішчам: М. Ермаловіч. Гэта былі літаратуразнаўчыя і крытычныя артыкулы аб творчасці Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гурыновіча, М. Танка і іншых нашых пісьменнікаў.

М. Ермаловіч збіраў на Маладзечаншчыне літаратурна - краязнаўчыя матэрыялы, выступаў перад насельніцтвам з прапагандай беларускай літаратуры. Апошняе ён не перапыняе і сёння. Маладзечанцы звыкліся ўжо з тым, што ён кожны месяц чытае ў Цэнтральнай бібліятэцы агляды кніжных навінак нашай літаратуры, робіць агляд свежых нумароў часопісаў, прымае ўдзел у арганізацыі літаратурных вечароў. Свой чалавек М. Ермаловіч і ў абласным краязнаўчым музеі.

І проста здзіўляешся, як у яго на ўсё гэта хапае часу і здароўя. Кажам—здароўя, бо Міколу Іванавічу ўжо даўно дактары дазваляюць чытаць не больш адной гадзіны ў дзень. З-за хваробы вачэй ён быў вымушаны на доўгія дзесяць гадоў пакінуць любімую працу.

І вось гады тры назад пайшлі адна за адной ягоныя публікацыі. Аказваецца, гады «маўчання» былі гадамі вялікай працы. Мікола Іванавіч перакваліфікаваўся, стаў



гісторыкам-даследчыкам. Ім напісана вялікая манаграфія пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага — найбольш спрэчны момант беларускай гісторыі.

Не пакінуў ён і літаратурнай крытыкі. Зусім нядаўна мы чыталі яго глыбокія па навуковай думцы рэцэнзіі на «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры», на кнігу А. Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе», «Ленін і беларуская літаратура». Акрамя гэтага, нядаўна выйшла яго брашура «Дарагое беларусам імя» (Ленін і Беларусь), завершана новая вялікая праца «Маркс, Энгельс, Ленін і Беларусь», якая мае шмат цікавейшых матэрыялаў, мала вядомых нашай гістарычнай навуцы.

Міколу Іванавічу споўнілася пяцьдзесят. Хочацца пажадаць яму, нястомнаму працаўніку, перш за ўсё добрага здароўя і цікавых навуковых адкрыццяў.

**Г. КАХАНОЎСКІ, Р. СЕМАШКЕВІЧ.**

## НОВАЯ РАБОТА САМАДЗЕЙНАГА ТЭАТРА

Калектыў народнага тэатра Палаца культуры Мінскага камвольнага камбіната імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі паставіў трагікамедыю Я. Мамантава «Рэспубліка на колах або прэзідэнт кіслакапусцянай рэспублікі». П'еса расказвае аб рэвалюцыйных падзеях 1919 года на Украіне.

У спектаклі занята больш за сорак чалавек. Ролю бальшавіка Сашко Завірухі сыграў інжынер камбіната Анатоль Бондар, самога «прэзідэнта кіслакапусцянай рэспублікі» — рабочы Алег Скаромны. Гэта ўжо дзесятая роля Скаромнага на сцэне тэатра. Парадавалі ў спектаклі таксама электрыкі Анатоль Арцюх (салдат у цяльняшцы), Міхаіл Гameза (Каралёк), выхавацельніца дзіцячага сада Антаніна Анішчанка (Харытына), слесар Валянцін Дальноў (Пячоны) і інш. Паставіў п'есу рэжысёр Георгій Жаркоў.

Першымі гледачамі новай работы самадзейнага тэатра былі рабочыя, інжынеры, служачыя камбіната.

**Р. МІНІНА.**



На здымку — сцэна са спектакля. У ролях (злева направа): Саламон Мерчык — Р. Ліпень, Пячоны — В. Дальноў, дзядзька Максім—С. Тыртышны.

Фота Д. ВАЛЬКОЎСКАГА.

## АБ КОНКУРСЕ

### НА СТВАРЭННЕ ПАДРУЧНІКАЎ ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ДЛЯ 8 І 9—10 КЛАСАЎ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ ШКОЛ

**У мэтах стварэння для 8 і 9—10 класаў агульнаадукацыйных школ Беларусі стабільных падручнікаў па беларускай літаратуры, якія б адпавядалі адукацыйным і выхаваўчым задачам школы, адлюстроўвалі дасягненні літаратуразнаўства і педагагічнай навукі, Міністэрства асветы БССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку аб'явілі аб правядзенні ў 1969—1971 гадах рэспубліканскага конкурсу.**

**Міністэрства асветы БССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку паведамляюць, што рукапісы падручнікаў па беларускай літаратуры на конкурс можна падаваць да 15 кастрычніка 1971 года.**

Ганна КРАСНАПЁРКА

АПАВЯДАННЕ

# СЯРОД ШУМНАГА БАЛЮ...

В ОСЕНЬСКАЯ ноч ахутала вёску, тыфозную вёску. Усе чатыры хаты запоўнены хворымі. Тут партызаны з нашай і з лемехаўскай брыгады, сёй-той з вяскоўцаў.

У хаце, дзе я сёння дзяжуру, сем хворых. Двое — наш пэтээравец Лёня Юшка і немец Штэфан, які ў мінулым годзе сам прыйшоў у атрад, — у цяжкім стане.

Вася Сняжкоў і Віця Сямейка слабыя, але ўжо падымаюцца. Яны сябры, хаця ўвесь час грызуцца.

Тры дні назад стала лепей таму, з лемехаўскай брыгады. А думалі, што не выкачаецца.

Хто ён там, я не ведаю. Адно знаю — прозвішча Трацякоў.

Вочы шэрыя, запалыя, твар смуглявы, зусім не стары, а скроні амаль сівыя. Глядзіць хораша, ці то з прыязнасцю, ці то з удзячнасцю. Левая рука сагнута ў локці — анкелоз. Шрам — ад пляча да ключыцы.

Зінцы ён падабаецца:

— Не ведаю, ці таму, што ў гасцях у нас, ці мо сапраўды такі чалавек, надта далікатны...

Мілая, смешная Зінка! Днём яна тут намучылася. У печы напаліла, бялізну праварыла, накарміла ўсіх.

Ды каму зараз лёгка! Вунь наша доктарка Валянціна Віктараўна каторыя суткі на нагах!

Спакайней нам цяпер ужо і за дзядулю — мясцовага. Як жа яго скруціла, небараку!

Тыф... Гэта ўжо аднойчы было ў маім жыцці! Той таксама паміраў ад тыфу, але загінуў ад кулі...

Я пытаюся ў дзядулі, можа што трэба яму?

— Не, — адмоўна ківае ён і маўчыць. А кажуць жа — балбатун такі!

Вось Віктар і Васіль — сапраўды балбатуны, не суняць.

Віктар крыху старэйшы, мажнейшы, а Васілю, напэўна, толькі семнаццаць. А пасля тыфу — зусім як дзіця выглядае.

Я падкідаю ў печ і прыслухоўваюся да іх размовы:

— А ў мяне пяць рублёў ёсць, — гаворыць Васіль. — Савецкія, я іх схаваў. Нашы прыйдуць, пайду ў магазін і на ўсю пяцёрку булак накупляю, цёплых, з парфумкай...

— Гы, булак яму захацелася, з парфумкай! А трасцы не хочаш?

Я бачу, як Васіль пакрыўджана адвярнуўся да сцяны.

— Віця, які вы грубы? Навошта?

— Грубы! Ды з усяго гэтага дзікуном станеш! Хлопцы на немцаў палююць, а тут ляжы, як куль. Або шпяктакль глядзі. Вунь, зноў пачынаецца...

Так, пачынаецца. Лёня Юшка трызніць. Ды не толькі трызніць. Ён ускочыў на падушку, схапіў яе за ражкі, як каня за грыву, і раптам як закрычыць:

— Рубай іх, браткі, рубай!

— Зноў у атаку паскакаў, — зазначае Віктар.

Ён спаўзае з ложка і дапамагае мне ўтаймаваць Юшку. Я раблю Лёню ўкол камфары. Добра, што гэта ёсць у нас для падтрымкі сэрца.

— Днём жа таксама такое было, — працягвае Віктар. — Зінцы тут дасталося. І Антыфашыст яшчэ гэты, як падскочыў да дзядулі, думалі рады не дадзім. І ўсё крычаў: «Гітлер швайн, Гітлер швайн!»

Віктар лёг. Але, відаць, яго мучыць, што ён пакрыўдзіў таварыша:

— Васька, чаго ты пысу вароціш, масалбень такі! Пакрыўдзіўся за пусты мех!

Васька раптам усхліпвае. Потым плача гучней і гучней. Я разумею: гэта не ад крыўды на сябра. Ад слабасці, ад бездапаможнасці, ад жалю да сябе, да Віцькі, да Лёнькі, да ўсяго таго, што адбываецца на зямлі. Я супакойваю Ваську. А слёзы цякуць і цякуць па яго схуднелых шчаках, па вуснах, і ён злізвае іх горыч і соль пабялелым языком.

Потым яму становіцца лягчэй, ён быццам саромеецца сваіх слёз і кажа, звяртаючыся да мяне:

— Раскажы яшчэ пра тую дзеўку, Кансуэлу. Здорава ў цябе атрымліваецца.

І я ў каторы раз пачынаю расказ, які ніяк не магу закончыць.

Неўзабаве адчуваю, што блытаюся, што зліпаюцца вочы, і раптам чую свой голас:

— Айвенга прыадчыніў дзверы і зайшоў да яе.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# ШУКАЛЬНІК

ЗАСЛУЖАНАМУ АРХІТЭКТАРУ БССР В. І. ГУСЕВУ — 60 гадоў



У ЯВІЦЕ сабе маладога хлопца гадоў дваццаці чатырох — дваццаці пяці, які ўваходзіць у аўдыторыю і, павітаўшыся са студэнтамі, сваімі аднагодкамі, кажа:

— Я прызначаны кіраваць вашымі дыпломнымі работамі...

Не дужа звычайная сітуацыя, ці не так?

А, між тым, яна не прыдуманая. Менавіта ў гэтым узросце ўпершыню правёў сваю першую лекцыю ў Беларускім дзяржаўным політэхнічным інстытуце Валянцін Іванавіч Гусеў.

Было гэта ў 1936 годзе...

З той пары, вось ужо трыццаць пяць гадоў, дзе б ён ні працаваў, якія б пасады ні займаў, Валянцін Іванавіч не пакідае педагагічнай дзейнасці, не расстаецца з шумлівым племенем студэнтаў. Ён зжыўся з імі, навучыўся разумець іх парыванні, прадбачыць памылкі, спачуваць пошукам. Яму лёгка з моладдзю, бо сам ён за гэтыя гады не састарэў сэрцам, бо сам у творчасці заўсёды ішоў у шэрагах даследчыкаў новага.

Яму пашанцавала. Пасля заканчэння Маскоўскага архітэктурнага інстытута ён трапіў ва ўстанову, дзе яму адразу даручылі адказную самастойную работу.

За адзін толькі трыццаць шосты год ён зрабіў праект Дома Чырвонай Арміі ў Бабруйску з глядзельнай залай на 1000 месцаў, некалькі жылых дамоў, дапамагаў І. Лангбарду распрацоўваць праекты інтэр'ераў і фасадаў Дома Чырвонай Арміі ў Мінску. Усе гэтыя работы даюць нам сёння падставу меркаваць, што трыццаць пяць гадоў назад ён увайшоў у аўдыторыю не проста ўчарашнім студэнтам, а ўжо вопытным майстрам, які паспытаў смак архітэктарскага хлеба.

І ўсё ж такі было ў ім нешта ад пачаткоўца. Можа тая юнацкая яшчэ адвага, з якой ён браўся за ўсё новае. У толькі што сфарміраваным «Белпрампраекце», галоўным архітэктарам якога Валянцін Іванавіч становіцца ў 1937 годзе, ён практычна пачынае новую для Беларусі справу архітэктурнага праектавання прамысловых прадпрыемстваў.

Фабрыка музычных інструментаў у Барысаве, іголкавая фабрыка ў Віцебску, пасёлкі торфазаводаў імя Арджанікідзе, «Чырвоны сцяг», «Дукоры», «Лукскі» пабудаваны па яго праектах. Сёння, прыгадваючы гэтыя работы, мусім сказаць, што малады архітэктар не толькі ўдала справіўся са сваёй прамой задачай — праектаваннем прамысловых прадпрыемстваў. Ён распрацоўваў вельмі прагрэсіўную (нават сёння) ідэю комплекснай забудовы. Ён праектуе для пасёлкаў жыллё, клубы, магазіны, бальніцы, нават лазні — адным словам, увесь комплекс, неабходны для нармальнага жыцця і працы рабочых.

Акрамя таго, у гэты час ён працуе над конкурснымі праектамі некалькіх вялікіх грамадскіх будынкаў. Яму была прысуджана першая прэмія за праект Гандлёвага павільёна, які заказаў наркамат гандлю БССР; першая прэмія за праект драматычнага тэатра ў Магілёве (сумесна з Г. Якушка); першая прэмія за праект штаба БВА, які меркавалася паставіць у раёне сённяшняга бульвара Талбухіна.

Але ніводнаму з гэтых праектаў не суджана было ўвасобіцца ў цэгле, бетоне, шкле — пачалася вайна.

Увесь свой вопыт, увесь свой юнацкі імпэт, усё ўменне аддае ваентэхнік 1-га ранга В. Гусеў нялёгкай працы ваеннага інжынера. Ён будуе ў прыфрантавой паласе шпіталі і штабы, хлебазаводы і бомбасховішчы — усё тое, без чаго не можа існаваць сучасная армія.

Валянціну Іванавічу не давялося закончыць вайну ў логаве фашысцкага звера. У 1944 годзе камандаванне адкамандзіравала яго на аднаўленне разбуранага вайной Мінска.

Менавіта ў першыя пасляваенныя гады на поўную моц раскрываецца талент Гусева-дойліда. Ён стварае некалькі будынкаў, якія сёння і, напэўна, яшчэ вельмі доўга будуць упрыгожаннем сталіцы. Першы сярод іх штаб Беларускай ваеннай акругі, так удала ўпісаны ў ландшафт, такі манументальны, дзякуючы трапнаму пераасэнсаванню класічнай спадчыны.

Быццам знудзіўшыся за гады вайны па творчай рабоце, В. Гусеў будуе, будуе, будуе... Літаральна на яго вачах падымаецца з руінаў Мінск. Па яго праектах з 1945 па 1949 год рэканструецца Дом афіцэраў у Мінску, узводзяцца будынкі штаба БВА, штаба тылу БВА, ваеннай паліклінікі, шпіталя, сталовых, клубаў, інтэрнатаў, жылыя дамы.

У пачатку пяцідзесятых Валянцін Іванавіч пераходзіць на работу у Дзяржбуд БССР і адначасова займае пасаду дацэнта кафедры архітэктуры Беларускага політэхнічнага.

На ўсю краіну слаўныя сёння шахцёрскі Салігорск і горад беларускіх хімікаў Наваполацк. Шмат ведаем мы пра гэтыя гарады, пра славутых людзей, што жывуць там, але, напэўна, мала хто, акрамя спецыялістаў, ведае, што ўпершыню знайшоў ім месца на карце Беларусі Валянцін Іванавіч Гусеў.

Зараз Валянцін Іванавіч — загадчык кафедры інтэр'ера і абсталявання Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

Чаму такі паварот?

Ды, напэўна, таму, што архітэктура інтэр'ера і абсталявання — справа новая, а Валянцін Іванавіч усё жыццё цягнецца да новага, да нечага такога, што не разведана, не распрацавана. І, акрамя таго, інтэр'ер — яго даўняя і пастаянная любоў. Нават першая творчая работа, якую ён зрабіў яшчэ студэнтам, — «Інтэр'ер і абсталяванне турысцкіх параходаў «Пугачоў» і «Рудзутак». Даўно ўжо няма гэтых параходаў, а вось любоў да сваёй першай сапраўднай работы, да свайго першага поспеху не згасла.

Зараз у студэнтаў тэатральнага-мастацкага інстытута гарачыя дзянькі — хутка пачнуцца прагляды. Як важна для маладога чалавека, каб у гэты час побач быў чалавек, які можа параіць, густу і добразычлівасці якога можна даверыцца. У студэнтаў аддзялення інтэр'ера і абсталявання такі чалавек ёсць — Валянцін Іванавіч Гусеў. Моладзі з ім лёгка, бо ён разумее яе парыванні, умее прадбачыць памылкі, спачувае пошукам.

Быццам і не споўнілася яму шэсцьдзесят!..

А. БЕЛАВУСАЎ.

# МАТЧЫН

(Заканчэнне. Пачатак на 6—7 стар.)

— Няўжо праўда? — маці паставіла побач суды гарачай вады. Час быў скрабсці нажом, абмываць кабана. — Не чула такога. У Захараўцы, праўда, пайшлі зяць з цесцем на цямку біць кабана. А ў хлеве цёмна, хоць вока выкалі. Цесць уссеў на кабана ды крычыць: бі па лабэціне доўбняй! Той размахнуўся ды як сперазаў!.. Не па кабане, а цесцю па плячах. Дык той і захроп... Узваліў зяць цесця на падводу ды хутчэй у бальніцу. Цесць на паўдарозе агоўтаўся. «Ну, — кажа, — і здаровы ж, падла, кабан! Гэтак гэцнуў мяне аб сцяну. Аж уваччу дасюль цёмна...» Зяць не ведае, што казаць: прызнацца ці не прызнацца? Усё-такі не вытрымаў: «Тата, — кажа, — гэта ж я па абмылцы пацягнуў цябе». «Ах ты, гад! У суд падам!» — узняў гвалт цесць. Ды што ён зробіць, калі і падняцца не можа... Ну, а пасля памірыліся. Ведама ж, цесць і зяць.

— А, можа, зяць на цесця зуб меў? — рагоча Мікола.

— Не, кажуць, добра паміж сабой жылі. Душа ў душу... Ну, хопіць яго ўжо шлехтаваць, — разгінаецца маці ад кабана. — Шкурка вунь, як шкло, бліщчыць!

Маці бярэ востры, наточаны на наждаку нож, зразае на жываце ў кабана «гузікі» і, як вымагае звычай, шпургае іх на хлеў.

— Расціце, кабаны, кожны год па гэтай хароміне. Каб, як хлявы, хадзілі па двары.

Маці жагнаецца ні то на хлеў, ні то на кабановы «гузікі». Тым часам Мікола ўвіхаецца каля кормніка з нажом. Неўзабаве шырокі, на далонь, ашыек маці трымае ўжо ў руках. Усе разумеюць: гэта на патэльню.

— Я скоранька... І напяку, і насмажу... — спяшае маці да ганка.

— Неблагое сала будзе, — аруднуючы нажом, хваліць кабана Мікола. — Пальцы на чатыры таўшчынёй.

— А на тваім якое было сёлета? Добрае? — пытае Толя. Ён пластуе сала з другога боку.

— Ат, няма чаго хваліць, няма чаго і ганіць, — ухіляецца ад прамога адказу Мікола. — Сярэдняе...

Работа ў яго руках спорыцца. Шах, шах нажом — ужо і сцёгны адрэзаны, трах! — і грудзіна рассечана, ляціць у ночвы. Мікола раскройвае сала на доўгія палосы. Рэжа на вока, але палосы выходзяць роўныя, быццам адбівалі шнурам.

Хапаем з Толем начоўкі, нясем у хату.

— Так скоранька?! — дзівіцца маці. — Во што значыць мужчыны. А мне ж, бабе, гэтай работы хапіла б на цэлы дзень, да саменькага вечара, — хваліць яна. — Сюды, у «халодную» палавіну нясіце, — камандуе маці і тупае на ката, які меціць праскочыць цераз парог услед за свежынай. — Апсік! Драмаў-драмаў на печы, а цяпер — у сала, гультай!..

— А што ж! Колькі яму пасціць? — смяецца Мікола.

# РОДНАЕ ЗЯМЛІ...

нікаў, ад крыўд і гнеўных праклёнаў палешукоў у адрас крывасмокаў-памешчыкаў, ад розных паэтычных бывальшчын і небывальшчын, пачутых калісьці ў роднай хаце бацькі-лесніка, падслуханых на шумлівых кірмашах, на ціхіх беларускіх шляхах і прасёлках, у курных паляшуцкіх хатах, — вось той вялікі і невычарпальны клад мудрага слова, які асвоіў паэт і зрабіў сталым і неад'емным здабыткам свайго творчага майстэрства. Вось чаму, аб чым бы ні пісаў Якуб Колас, у якім бы жанры ні выступаў ён у літаратуры як у дарэвалюцыйны, так і ў наш савецкі час, кожнае слова яго па-народнаму проста, па-народнаму даступна, па-народнаму мудра».

Будучы навучэнцам Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, а пазней працуючы настаўнікам на Палессі — у вёсках Люсіна і Пінкавічы, ён грунтоўна знаёміцца з фальклорнымі зборнікамі П. Шэйна, Е. Раманава, А. Сержпутоўскага і многіх іншых выдатных фалькларыстаў і этнографаў, дбала збірае і запісвае багатую вусна-паэтычную спадчыну свайго народа, якая прыцягвае яго антыпрыгонніцкай настраёвасцю, класавай накіраванасцю.

Аб гэтым яскрава сведчаць сабраныя паэтам фальклорныя матэрыялы, рукапісы якіх зараз захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея Якуба Коласа і да гэтага часу, на вялікі жаль, яшчэ нідзе поўнасцю не апублікаваны. Большасць з гэтых цікавых матэрыялаў запісана паэтам у сваёй роднай вёсцы Мікалаеўшчына, а таксама ў горадзе Нясвіжы, у вёсках Адцэда Стаўбцоўскай воласці і Гэвезна Гавезненскай воласці Мінскага павета і ў іншых месцах. Сярод іх ёсць і яго першая рукапісная аповесць «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле», падпісаная псеўданімам Карусь Лапаць, у якой расказваецца пра жыццё і побыт Мікалаеўшчыны.

Пазней гэты цікавы і ўдзячны матэрыял пісьменнік выкарыстаў у многіх сваіх творах — вершаваных апавяданнях «Святы Ян», «Як поп зрабіўся авіятарам», «За дождж», «Як Янка забагацеў» і іншых, паэмах «Новая зямля» і «Сымон-музыка», трылогіі «На ростанях», «Казках жыцця», шматлікіх бытавых апавяданнях.

Большасць казак, запісаных Якубам Коласам, носяць бытавы характар. У іх бязлітасна выкрываюцца прыгнятальнікі працоўнага чалавека — паны, папы, гандляры, паказваецца іх самадурства, фанабэрыстасць, разбэшчанасць, сквапнасць да багацця. Ім супрацьпастаўляецца ад прыроды разумны, здольны на ўсялякія штукі і выдумкі, востры на язык, працавіты беларускі селянін, які заўсёды знаходзіць выйсце з самага складанага, здавалася б, безвыходнага становішча.

Напрыклад, у адной з казак расказваецца, як аднойчы пан зачыніў у хлеў сялянскага каня за тое, што гэтая цягавітая, змардаваная жывёліна забрыла ў панскі авёс. Селянін ведае, што пан надта фанабэрысты і ганарысты, і за так наўрад ці аддасць каняжыну. Параскінуўшы розумам, ён вельмі ўмела выкарыстоўвае гэтыя рысы пана ў сваіх інтарэсах.

«Чалавек ідзе, нібыта не бачыць пана.

— Калі ён з вялікіх паноў, то так аддасць каня, — гаворыць мужык сам з сабою, каб і пан чуў, — а калі ён які-небудзь шляхціч з-пад цёмнай Гвязды, то злупіць некага рубля.

— Дзень добры, пану! — зняў мужык шапку і нізенька пакланіўся. — Аддай, будзь ласкаў, каня!

— Забірай, пся крэў твая!»

З'едліва насміхаецца селянін з пана і ў казцы-жарце, у якой расказваецца, як аднойчы пан паслаў да другога пана пасланца з лістом. Прынёсшы ліст пану, ён не толькі не пакланіўся, але нават і шапкі не зняў перад ім.

«Пан не сцярпеў:

— Гм!.. Ці ж у твайго пана няма лепшага чалавека?

— Чаму, пане, няма, — кажа мужык. — Але ж ён лепшых людзей то і к лепшым панам пасылаў».

Дасціпным народным гумарам вызначаецца і востры анекдот пра дваранін:

«Падыходзіць пад акно вечарам к чалавеку дваранін і стукае:

— Хто там?..

— Я!.. Пусціце, калі ласка, пераначаваць!

— Хто ж ты?

— Дваранін.

— Ну то і спі на дварэ, калі дваранін!»

Вялікае месца сярод фальклорных матэрыялаў, запісаных Якубам Коласам, займаюць антырэлігійныя казкі, легенды і анекдоты. У іх яскрава выявіліся адносіны беларускага народа да рэлігіі і зямных «слуг бос-кіх». Аб гэтым сведчыць шырока вядомая казка «Святы Ян», запісаная пісьменнікам 28 чэрвеня 1901 года ў роднай вёсцы. Пазней, паклаўшы ў аснову гэтую казку, Якуб Колас стварае цікавае і арыгінальнае вершаванае апавяданне «Святы Ян» (1918 г.).

Акрамя казак, ён запісаў шмат легенд, народных песень, прымавак, загавораў, загадак.

Цікавымі з'яўляюцца і этнаграфічныя нататкі «Из д. Люсино Пинского уезда», напісаныя ім на рускай мове. Паэт падрабязна апісвае геаграфічнае месцазнаходжанне вёскі, яе ваколіцы: «Сама деревня расположена на поляне, имеющей форму правильного круга, диаметр которого не более двух вёрст. Вокруг поляны тянется чёрная двухярусная полоса лозы и леса. С южной стороны проходит одноколейная железная дорога. В трёх верстах от деревни находится разъезд Люсино. С востока и севера залегли болота, которые тянутся непрерывно в пределы Волынской губернии и к городу Ровно. В 4-х верстах протекает богатая рыбою река Цна. Кроме этой речки здесь протекают маленькие болотные речонки, быстро теряющиеся среди бесчисленных кочек: Струга, Телешов Дуб и много друг(их). Местность низменная, но в трёх верстах к востоку от деревни тянется среди лесов гряда холмов...»

Далей расказваецца аб занятках жыхароў. Якуб Колас адзначае, што люсінцы займаюцца земляробствам, пчалярствам і рыбалоўствам. Ён дае і малюнак знешняга выгляду вёскі, падрабязна апісвае паляшуцкую хату, яе ўнутранае ўбранства.

Гэты этнаграфічны матэрыял, які яшчэ нідзе поўнасцю не публікаваўся, пазней быў выкарыстан пісьменнікам у час працы над трылогіяй «На ростанях».

Паэт не толькі запісваў, але і апрацоўваў беларускія казкі. Упершыню народныя казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа з'явіліся ў яго падручніку «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», які выйшаў з друку ў 1909 годзе ў Пецярбурзе. У гэтую кніжку, акрамя вершаў, апавяданняў, баек, загадак, увайшла вялікая колькасць казак («Воўк-дурань», «Леў і воўк», «Два зайцы», «Мужык і пан», «Мужык і цыган», «Мужык і загарак», «Дзве кумы», «Чаму ў сенакос і жніво ідзе дождж», «Цяжкая доля», «Песня птушкі», «Дурань», «Два маразы» і іншыя), большасць з якіх былі запісаны ім самім.

Вялікае месца ў творчасці Якуба Коласа займаюць вершаваныя апавяданні. Гэта высокамастацкая апрацоўка беларускіх народных казак пераважна сатырычнага і гумарыстычнага характару, якія запісаў ён у розныя часы і ад розных асоб. У многіх з іх высмейваецца злая цешча («Заяц»), непаслухмяная жонка («Паслушная жонка), шарлатаны-«дактары» («Доктар памог»), п'янства («Паўлюкова бяда»), розныя забабоны і павер'і («За дождж», «Прапаў чалавек»), папы, ксяндзы («Ігрышча», «Як Янка забагацеў») і г. д.

На багатых рэалістычных традыцыях беларускага фальклору ўзніклі і алегарычныя апавяданні Якуба Коласа «Казкі жыцця», над якімі ён працаваў да апошніх сваіх дзён. У іх яшчэ раз яскрава праявілася гарачая любоў паэта да свае Айчыны, да свайго народа, яго культуры і літаратуры.

Амаль ва ўсіх творах пісьменніка, як каштоўныя зерні бурштыну, парассыпаны цудоўныя ўзоры вусна-паэтычнай творчасці. Фальклорны матэрыял дапамагаў яму глыбей пазнаваць і адлюстроўваць жыццё народа, каларыт той эпохі, у якой адбываецца дзеянне твораў.

Якуб Колас быў не толькі выдатным фалькларыстам, але і ўдумлівым этнографам. Па яго творах можна ўявіць з этнаграфічнай дакладнасцю жыццё і быт беларускага селяніна з дня нараджэння і да самай смерці. Ён падрабязна, паэтычна апісаў асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго года, традыцыйныя святы, побыт, сямейныя традыцыі і адносіны, вераванні, абрады, жарты нашага народа.

На працягу ўсяго свайго жыцця народны паэт заклікаў нашу моладзь, нашых пісьменнікаў чуйна прыслухоўвацца да голасу працоўнага люду, дбайна, па-гаспадарску збіраць, удумліва вывучаць і выкарыстоўваць у сваіх творах яго багатую вусна-паэтычную творчасць. Вялікі пясняр заўсёды падкрэсліваў і напамінаў нашаму маладому пакаленню, што «ўсе выдатнейшыя паэты і пісьменнікі, кампазітары, музыканты прыслухоўваліся і прыслухоўваюцца да творчасці народа, да яго песень, мелодый і выкарыстоўваюць іх у сваіх мастацкіх творах... Вось чаму іх творчасць так захапляе і паланіць нас сваім харастовам, паўнакроўнасцю вобразаў і мастацкага слова».

Гэтыя справядлівыя, шчырыя словы можна поўнасцю аднесці і да самога Якуба Коласа.

М. БАЗАРЭВІЧ.

---

Так, ва ўжо прыгаданай рэцэнзіі на 1-ы том «Беларусаў» Я. Ф. Карскага У. Гнацюк не толькі выступае за нацыянальную самастойнасць братняга народа, а і высока ацэньвае яго мову і вусна-паэтычную творчасць. Ён заўважае, што «праца праф. Карскага вельмі цікавая для кожнага славіста», што яна мае велізарнае значэнне для самаўсведамлення беларусаў. На аснове гаворкавых дадзеных Карскага вучоны вызначае этнаграфічную мяжу паміж украінцамі і іх паўночнымі суседзямі, указвае на роднасць моў нашых народаў, прапануе арганізаваць сумесныя ўкраінска-беларускія дыялекталагічныя экспедыцыі, якія б дапамаглі дакладна вывучыць моўныя ўзаемаадносіны на Палессі.

У 1907 годзе, у «Зборніку аддзялення рускай мовы і славеснасці імператарскай Акадэміі навук» была апублікавана падборка «Беларускіх народных песень» С. Малевіча. Рэцэнзуючы падборку, украінскі вучоны станоўча ацаніў Малевічаў прынцып групавання песень, але адначасова раскрытыкаваў укладальніка за тое, што ён перабольшвае рускі фальклорны ўплыў на беларускія песні.

Вельмі высока ацаніў У. Гнацюк першы том капітальнай працы фалькларыста і этнографа М. Федароўскага «Lud bialoruski na Rusi litewskiej» (Кракаў 1897). У рэцэнзіях і водгуках на гэтую працу ён падкрэсліваў: «Вялікае яе значэнне не толькі ў багацці матэрыялу, але і ў тым, што яна прыносіць многа новага... Апрача таго, зборнік вызначаецца яшчэ і тым, што ён складзены з запісаў самога Федароўскага, а гэта надзвычай рэдкая з'ява ў фалькларыстыцы, асабліва, калі ўзяць пад увагу мноства матэрыялаў. Ужо за гэтую самую вялікую працу, якую выканаў М. Федароўскі... належыць яму вялікае прызнанне». У другім месцы У. Гнацюк гаворыць, што зборнік М. Федароўскага «дасць нам вельмі добры вобраз беларускай культуры». Асабліва захапляўся ўкраінскі вучоны высокай тэхнікай запісаў Федароўскага. Ён заўважае, што тэксты «запісаны вельмі дакладна, не пераказаны адвольна ўслед за апавядальнікам, не перакладзены на чужую мову, а што прыемна — у іх маюцца нават прыкметы розных беларускіх дыялектаў. Таму яны маюць вартасць не толькі для фалькларыста, але і для філолага». На думку Гнацюка, без працы М. Федароўскага не можа абысціся ні адзін даследчык матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа.

Матэрыялы з «Ludu bialoruskiego» далі магчымасць У. Гнацюку яшчэ раз нагадаць аб тым факце, што ўкраінцы і беларусы маюць вельмі многа агульнага ў «навыках, поглядах, вераваннях».

Са шчырым задавальненнем У. Гнацюк адзначае, што «беларуская этнаграфія ідзе хуткім крокам наперад». Ён жадае М. Федароўскаму ўсялякіх поспехаў у яго высакароднай працы.

У. Гнацюк быў добра знаёмы з усімі тагачаснымі фалькларыстычнымі і этнаграфічнымі беларускімі зборнікамі, у прыватнасці, з матэрыяламі В. Быкоўскага, Д. Булгакоўскага, А. Гурыновіча, М. Доўнар-Запольскага, З. Радчанкі і іншых. У артыкуле «Украінская народная славеснасць» ён раіць недасведчаным збіральнікам фальклору браць за прыклад зборнікі «Гомельскія народныя песні» З. Радчанкі, «Пінчукі. Песні, загадкі, прыказкі і інш.» Д. Булгакоўскага, «Беларускае Палессе. Песні пінчукоў» М. Доўнар-Запольскага і «Свята куста» В. Быкоўскага.

Беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы былі заўсёды ў арсенале Гнацюка-даследчыка. Ён сам арганізоўваў запісванне беларускай народна-паэтычнай творчасці.

Глыбокія беларусазнаўчыя інтарэсы У. Гнацюка тлумачацца яго вялікай любоўю і павагай да Беларусі, яго рэвалюцыйна-дэмакратычным светапоглядам, інтэрнацыяналісцкімі перакананнямі. Адстойваючы правы братняга народа, вучоны-грамадзянін тым самым адстойваў правы і свайго роднага народа. Імя Уладзіміра Міхайлавіча Гнацюка запісана навекі на старонках украінска-беларускіх культурных і навуковых ўзаемасувязей. Яно з асаблівай сілай ззяе цяпер, калі яго слаўнаму носьбіту спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння.

В. ЧАБАНЕНКА,
кандыдат філалагічных навук.

г. Запарожжа.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Міхась СКРЫПКА

## ІСЦІНЫ

*Пераклады з мовы фарсі.*

Не бачыць гнеў,
Дзе свой, а дзе чужы.
Калі ты «закіпеў» —
Сам ад сябе бяжы!
Ты кухаль праўды асушы да дна,
Якой бы горкай ні была яна.
Нягоднік — той жа скарпіён,
Пускае ў ход язык.
Кусаецца не з гора ён,
А так — ужо прывык.
Хто, раззлаваўшыся, валодае сабой,
Той выйграе у спрэчцы бой.
Слыў мудрацом ён сярод нас,
Ды час прыйшоў — мудрэц
Не ў час падаўся на Парнас
І славе той — канец
Разгневан — пацярпі: ты чалавек — не леў.
Развазе саступі, змяні на літасць гнеў.

Разбіць рубін
Любым ты можаш чынам.
А зноў злучыць асколкі
Немагчыма.
Хай лепей друг цябе ударыць, як прыблуду,
Чым пацалуе юда.
Ключа ад зла не падабраў,
Яно жыве пакуль.
Тады хутчэй для добрых спраў
Ты бі па тым замку!
Абжора сам сабе капае яму
Сваімі ўласнымі рукамі.
Бяззубаму не з'есці хлеба многа.
Бясхлебнаму і зубы не падмога.
З разлукай так бывае
[Як з'едзе хто далёка],
Што сэрца забывае,
Каго не бачыць вока.
Жыццё — спляценне радасці і бед,
За цемрай ночы дзень настане ўслед.
І пустазелле б не расло,
Калі б карэнняў не было.

Прад невукам душы
Не варта раскрываць:
Бо ўсё на свой аршын
Ён будзе вымяраць.
Чыны не узвышаюць нас, мужчын,
А носьбіт чына узвышае чын.
Дзён горкіх не зніжай цаны:
Знікаюць назаўсёды і яны.
К нам гора наплывае морам,
Але па кроплі адплывае гора.
Жыве мудрэц між нас,
Хаця памёр даўно.
А дурань, што мярцвяк,
Хоць з намі п'е віно.
Зло з розумам не мірыцца даўно,
Бо застаецца што-небудзь адно.
Жывём не для таго, каб есці, піць,
Ядзім жа для таго, каб жыць.
Не зазнавайся тым,
Што бацька мудры твой.
Хай бацька лепш, чым ты,
Пахваліцца табой.

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

*Калі я супраць тых, хто «за», гэта не значыць, што я за тых, хто супраць.*

⊙

*Прасцейшы выпадак шматграннасці: двудушнасць.*

⊙

*Заўсёды ёсць пра што пагаварыць, калі няма чаго сказаць.*

⊙

*І каню глядзяць у рот, калі лічаць зубы.*

⊙

*З усіх фарбаў самая ахойная—шэрая.*

⊙

*Слабай стрункай можа стаць і валовая жыла.*

⊙

*Якія гарызонты хавае ад нас гарызонт!*



Без слоў.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

І. РАДЗІЕЎСКІ

## НА СТАРЦЕ

Здаецца, гладка, бездакорна
Са звонкіх гукаў верш адліты:
І подых дня, і стройнасць формы,
А твор... не выйшаў на арбіту.
Сябе дарэмна крыўдай мучым:
Сакрэт узлёту — у гаручым.

## СКАЗАНА, ЯК АДРЭЗАНА

### ЗАМЕСТ ТОСТА

— Не п'еш—хлебам макай!

### ГУЛЬТАЯВАТЫЯ

— Мяшок ячменю палкай малоцяць.

### ПРА НЯБОЖЧЫКА-МУЖА

— Была благая пуга, ды і тая абарвалася.

### УДОВІНА ПРАЎДА

— Лягла не клята, устала не мята, устрапянулася і пайшла.

### МАЕ РАЦЫЮ

— Як благога мужыка ў доме мець, дык лепш добры тапор.

Запісаў С. ПАНІЗНІК.

## З ПАДСЛУХАНАГА

Пасля канцэрта да маладога спевака падышоў музыказнаўца:
— Я ў захапленні ад вас!
— Вам спадабаўся мой голас?
— Не, мне спадабалася смеласць, з якой вы рашыліся выступаць перад слухачамі з такім голасам.

□

— Ведаеш, Віктар, у красвордзе патрэбна назваць прозвішча вядомага артыста, якое складаецца з шасці літар. Можа, ты ведаеш?
— Не, не ведаю.
— Я таксама.
— Дык які ж ён вядомы?

□

Урач пытаецца ў пацыента:
— Вы гарэлку п'яце?
— Калі доктар будзе такі ласкавы...

□

Прафесар, паставіўшы студэнту двойку, гаворыць:
— Вы дрэнна скончыце, малады чалавек.
— Нічога, мне абы скончыць.

Запісаў А. ЛІХАЧ.

А. АЛЯКСЕЙЧЫК

## РАНІЦОЙ

Вася ляжаў на падлозе і адчуваў сябе вельмі блага. Ён нават падумаў, што памірае. У галаве нешта гуло і ляскала. Вася правёў языком па сухіх вуснах, а калі расплюшчыў вочы, дык убачыў, што гэта былі зусім не вусны, а батарэя паравога ацяплення.

Вася ўспомніў усё і ўзрадаваўся, што яшчэ жывы. Учора на дні нараджэння сябра ён выпіў бутэльку гарэлкі. Не, бутэлька была спачатку, а потым, здаецца, была яшчэ бутэлька. А, можа, не адна? А блага адчуў ён сябе пасля.

Вася ўспомніў раптам і тое, што сёння, аказваецца, не выхадны дзень, што трэба ісці на работу. Калі ён падумаў пра гэта, яму зноў зрабілася блага.

— Можа, не пайсці? — падумаў ён. — Не, трэба ісці, бо на заўкоме разбіраць будуць. А, можа, усё ж не ісці?

Вася ўзяў пятак, заплюшчыў вочы і падкінуў манету ўверх: калі будзе арол—ісці, калі рэшка — не ісці. Тры разы яму выпадаў арол.

Вася ўздыхнуў, падняўся. З большага памыўся, апрануўся.

— Ліха з ім! На работу, дык на работу!

Вася выйшаў з дому і пайшоў пахмяляцца. Перад работай.

Арт БУХВАЛЬД

## ШПІКІ Ў АРМЕЙСКІХ МУНДЗІРАХ

ФЕЛЬЕТОН

НЕКАТОРЫЯ мяркуюць, што ў аснове пентагонаўскай сочкі за амерыканскімі грамадзянамі, у тым ліку за губернатарамі, кангрэсменамі і сенатарамі, ляжыць нейкі загадзя распрацаваны макіавелеўскі план. Такія людзі проста не ведаюць армейскай машыны. На самай справе было так.

Гады чатыры таму назад у Форце Холабэрд радавы сяржант амерыканскай арміі ўвайшоў у барак 1-га палкавога разведвальнага ўзвода, рэкрутаванага з трыццаці навабранцаў, і заспеў чатырох з іх за азартнай гульнёй у косці.

— Сачкі вы і абібокі! — узлаваўся сяржант. — Калі вам больш няма чаго рабіць, мы знойдзем спосаб заняць ваш час!

— Што загадаеце, сяржант? — запытаў адзін з ігракоў.

— Адпраўляйцеся ў горад і пабегайце ўслед за кім-небудзь. Лішні тлушч скінеце. І каб да шасці гадзін вечара і духу вашага ў казарме не было!

Чацвёра навабранцаў пакінулі барак і пашыбавалі ў цэнтр Балцімора. Кожны выбраў сабе аб'ект па гусце. Адзін паваloкся за танцоўшчыцай, якая шукала работу ў шынках; другі паплёўся за пікантнай дамачкай з гаспадарчай сумкай у руках; трэці пабег за вучнем, які спяшаўся на бейсбольны матч, а чацвёрты падыбаў за паважным панам сярэдніх год, які, азіраючыся, прабіраўся ў непрыстойны кінатэатр.

На наступны дзень усе чацвёра паклалі на стол сяржанту свае справаздачы. Той не ведаў, што з імі рабіць, і на ўсялякі выпадак падшыў іх у папку з надпісам «Грамадзянская разведка».

Калі чатыры сябрукі расказалі сваім прыяцелям, як яны прыемна прабавілі час, астатнія салдаты ўзвода назаўтра ж пайшлі з казармы ў горад пацікавацца за балцімарцамі. Свае ўражанні яны таксама аддалі ў пісьмовай форме сяржанту, і ён зразумеў, што не ў яго чалавечых сілах прачытаць і разабрацца ў гэткай гары паперы.

Пра сваё цяжкае становішча сяржант далажыў капітану, і той адразу ўявіў сабе, да якіх вынікаў усё гэта можа прывесці. Калі яго падначаленыя спыняць сачэнне за грамадзянскімі асобамі, перад імі паўстане праблема, як растлумачыць, чаму яно пачалося. Але, з другога боку, калі аперацыя будзе працягвацца, можа стварыцца ўражанне, нібыта яна была загадзя запланавана. Не вырашыўшы, што горш, капітан адобрыў дзеянні сяржанта і загадаў нават узмацніць аперацыю.

У хуткім часе ўсе ваеннаслужачыя Форта Холабэрд пачалі шпіёніць за кім-небудзь з грамадзян Балцімора. Іх рапарты клаліся на стол тысячамі.

Непасрэдны начальнік капітана — палкоўнік — не захацеў быць белай варонай і папрасіў вышэйшыя інстанцыі даць яму яшчэ дзве тысячы салдат і камп'ютэр для апрацоўкі паступаючай інфармацыі.

Адказны генерал армейскай разведкі ўстрывожыўся: а што, калі які-небудзь балцімарскі лісток прашохае пра аперацыю і ў кангрэсе пачнуцца запытанні адносна таго, чаму армія аддае перавагу штату Мерылэнд? Таму ён загадаў разведвальным часцям, раскватараваным на тэрыторыі краіны, пачаць сочку за грамадзянскімі асобамі ў сваіх акругах. Цяпер ні ў кога язык не паднімецца абвінавачваць армію, быццам яна мае што-небудзь асабістае супраць жыхароў Балцімора.

Калі з усіх штатаў у цэнтр ракой палілася інфармацыя, Пентагону нічога не аставалася, як адкрыць шлюзы, і з праграмы «Ежа для міру» на рахунак органаў ваеннай разведкі быў пераведзены адзін мільярд долараў «на непрадбачаныя выдаткі».

Аперацыя набыла б яшчэ больш пачварныя памеры, каб адзін з чатырох навабранцаў, якія былі заспеты за азартнай гульнёй, не прабалбатаўся перад тэлекамерай пасля таго, як усю чацвёрку спісалі з арміі.

Адзін высокапастаўлены пентагонавец так збянтэжыўся, што неадкладна аддаў загад, у якім сяржантам катэгарычна забаранялася перапыняць гульню ў косці ў казармах амерыканскай арміі.

Пераклаў з англійскай мовы С. ДОРСКІ.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 09739

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24 62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.